*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 27 чэрвеня 1986 г. № 26 (3332) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



Удзячныя слухачы.

Фотаэцюд Я. МЯЦЕЛІЦЫ.



ПОСТУП ТЫДНЯ

# Сустрэча ў ЦК КПСС

19 чэрвеня Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў сустрэўся з пісьменнікамі — дэпутатамі Вярхоўнага Савета СССР, якія ўдзельнічалі ў рабоце яго пятай сесіі, і групай літаратараў сталіцы. Адбыўся шчыры абмен думкамі аб месцы і задачах літаратуры ў ажыццяўленні рашэнняў XXVII з'езда КПСС, у памнажэнні духоўнага багацця сацыялістычнага грамадства.

М. С. Гарбачоў у сваім выступленні падкрэсліў, што Савецкая краіна перажывае пераломны этап у сваёй гісторыі, у грамадскім развіцці. Рашэнні XXVII з'езда КПСС носяць паваротны характар. Яны адкрываюць новыя магчымасці для рэалізацыі ўсяго ствральнага патэнцыялу сацыялізму. Але сёння мы знаходзімся толькі ў пачатку намечанага шляху. Аб гэтым ішла сур'ёзная размова на толькі што прайшоўшым чэрвеньскім Пленуме ЦК КПСС. Каб надаць неабходны дынамізм усім сферам нашага жыцця — і эканамічнай, і палітычнай, і сацыяльнай, — неабходна глыбокая і ўсебаковая перабудова. І пачынаць яе трэба з перабудовы мыслення, псіхалогіі самога чалавека. Даецца яна нялёгка. Выяўляюцца канфліктныя сітуацыі, розныя пазіцыі. У праходзячым працэсе сустракаецца ўсё — ад філасофіі чакання да бяздумнасці і паспешлівасці. Але намечанае павінна быць ажыццёўлена.

Гаворачы аб актывізацыі чалавечага фактару, М. С. Гарбачоў адзначыў, што ўсё ў канчатковым выніку ствараецца чалавекам, залежыць ад чалавека, ад яго сацыяльнай і працоўнай актыўнасці, грамадзянскай сталасці, маральнага аблічча. Ад таго, які ён сёння і якім будзе заўтра, залежыць лёс усіх нашых планаў, лёс нашай краіны. Усё гэта на этапе барацьбы за дасягненне новага якаснага стану грамадства выступае на першы план. І тут, зразумела, велізарнае поле дзейнасці для мастацкай творчасці з яе велізарнай сілай грамадскага ўздзеяння.

*Курс на далейшае развіццё дэмакратычных асноў сацыялістычнага ладу, на развіццё крытыкі і самакрытыкі, шырокую публічнасць — гэты курс партыя будзе праводзіць цвёрда і паслядоўна, без якіх-небудзь ваганняў, сказаў далей М. С. Гарбачоў. Партыйны з'езд даў урок крытыкі канкрэтнай, канструктыўнай і вылечваючай. Такі дух стварэння, крытычнага аналізу неабходна не толькі захаваць, але і развіваць.*

У выступленні было адзначана, што савецкія пісьменнікі ніколі не адгароджваліся ад трывог сучаснага свету, ад жыцця нашага народа. Іменна ў гэтым і заключаецца маральная сіла савецкага мастацтва. Натуральна, што цяпер, калі ідзе суровая барацьба сіл міру і вайны, разгортваецца работа па абнаўленню ўсіх сфер жыцця савецкага грамадства, слова пісьменніка, голас мастака асабліва важны, асабліва ўплывовы. Літаратары могуць адыграць значную ролю ў ажыццяўленні псіхалагічнай, маральнай перабудовы, у барацьбе з негатыўнымі з'явамі. Пры гэтым ясна, што мастацкае даследаванне сучаснасці патрабуе смелага, нешаблоннага мыслення, разумення глыбінных з'яў і працэсаў жыцця. Сёння ёсць вострая патрэбнасць у творах, у якіх бы высокамастацка раскрываліся сучасныя канфлікты, рэальныя калізіі, адчуваўся напал барацьбы за ажыццяўленне намечаных задач. У творах, якія ўсялялі б упэўненасць у перамозе ідэй і задум XXVII з'езда КПСС, усталёўвалі сапраўдныя чалавечыя каштоўнасці.

М. С. Гарбачоў звярнуў увагу *на тое, што дэмакратызацыя* жыцця патрабуе перабудовы, пераадолення застойных з'яў і ва ўсіх грамадскіх арганізацыях, у тым ліку ў творчых саюзах. Тут таксама не павінна быць месца інерцыі, самазадаволенасці, бюракратызму. Савецкая літаратура — плоць ад плоці народа, адзіная з інтарэсамі народа, інтарэсамі партыі.

У абмене думкамі прынялі ўдзел Г. Маркаў, Р. Бакланаў, А. Чакоўскі, М. Грыбачоў, С. Залыгін, Я. Ісаеў, Ю. Бондараў, С. Міхалкоў, А. Ананьеў, А. Вазнясенскі, Ф. Кузняцоў, А. Іваноў, У. Карпаў, А. Ганчар, М. Шатроў, Г. Баравік, Г. Абашыдзе, Р. Гамзатаў, А. Дзяменцьеў. Яны гаварылі аб шчырым адабрэнні савецкай мастацкай інтэлігенцыяй паслядоўных намаганняў партыі па рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС, аб тым, што міралюбівыя савецкія ініцыятывы маюць велізарнае значэнне для росту міжнароднага аўтарытэту нашай краіны, што яны высокачалавечныя і высокагуманныя.

Удзельнікі сустрэчы ўдзялілі вялікую ўвагу абмеркаванню надзённых пытанняў мастацкай творчасці. Гаворачы аб узрастаючай ролі духоўнай сферы, у тым ліку літаратуры і мастацтва, у жыцці грамадства, яны адзначалі неабходнасць павышэння іх якаснага ўзроўню, падкрэслівалі высокае *прызначэнне мастака-грамадзяніна*, яго адказнасць за маральнае здароўе грамадства, за лёс савецкай культуры. Прамоўцы адзначалі, што мастацкая інтэлігенцыя краіны з гатоўнасцю і энтузіязмам уключаецца ў работу ў новых умовах, імкнецца да пераадолення негатыўных з'яў у сваім асяроддзі, да больш строгага падыходу пры ацэнцы вынікаў творчай працы. З гэтых пазіцый абмяркоўваліся наспеўшыя праблемы літаратурнай крытыкі, выдавецкай справы, дзейнасці літаратурнага друку.

У сустрэчы ўдзельнічалі член Палітбюро ЦК КПСС, сакратар ЦК КПСС Я. К. Лігачоў, сакратар ЦК КПСС А. М. Якаўлеў, загадчык Аддзела культуры ЦК КПСС Ю. П. Воранаў.

(ТАСС).

# VIII З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ СССР

Савецкая літаратура непадзельная з інтарэсамі Радзімы, інтарэсамі партыі. Плоць ад плоці народа, яна жыве яго клопатамі і трывогамі, актыўна фарміруе чалавека новага свету — патрыёта, стваральніка, сапраўднага інтэрнацыяналіста, здольнага ўзяць на сябе ношу свайго часу.

Задачы мастакоў слова на сучасным пераломным этапе развіцця краіны — у цэнтры ўвагі дэлегатаў VIII з'езда пісьменнікаў СССР. Ён адкрыўся 24 чэрвеня ў Маскве, у Вялікім Крамлёўскім палацы.

Апладысментамі сустрэлі дэлегаты і госці таварышаў **Гарбачова М. С., Аліева Г. А., Варатнікова В. І., Грамыку А. А., Зайкова Л. М., Лігачова Я. К., Рыжкова М. І., Саломенцава М. С., Шэварднадзе Э. А., Дземічава П. Н., Далгіх У. І., Талызіна М. У., Бірукову А. П., Дабрыніна А. Ф., Зімяніна М. В., Мядзведзева В. А., Нікаґнава В. П., Якаўлева А. М., Капітонава І. В.**

Са справаздачным дакладам праўлення Саюза пісьменнікаў СССР выступіў першы сакратар праўлення **Г. М. Маркаў.** (Даклад будзе апублікаваны).

З дакладам цэнтральнай рэвізійнай камісіі Саюза пісьменнікаў СССР выступіў яе старшыня **В. П. Цельпугоў.**

Затым на з'ездзе пачаліся спрэчкі.

Перад савецкімі пісьменнікамі, адзначалі прамоўцы, стаіць задача паўней, ярчэй расказваць аб людзях, у якіх раскрываецца вышыня сацыялістычнай маралі, сталасць мыслення, перавагі савецкага ўкладу жыцця. На партыйную свядомасць майстроў слова разлічвае Камуністычная партыя, востра і патрабавальна паставіўшы на сваім XXVII з'ездзе пытанне аб павышэнні грамадскай аддачы літаратуры і мастацтва.

І жыць, і думаць аб жыцці, і пісаць аб ім стала, бясспрэчна, больш цікава, падкрэслівалі выступаючыя, гаворачы аб аздараўленні грамадскай атмасферы. Нездарма так прыкметна актывізавалася творчае жыццё ў краіне, больш канкрэтнымі, больш адказнымі і, нарэшце, проста больш разумнымі сталі спрэчкі аб месцы пісьменніка ў рабочым страі. З'явіліся ўжо творы, якія адпавядаюць духу часу, абуджаюць сумленне, патрабуюць ад чытача мабілізацыі яго грамадзянскіх пачуццяў. Сёння, узвышаючыся над часовымі бытавымі акалічнасцямі, пісьменнік абавязан у кожнай з'яве бачыць яе палітычны сэнс, яе ідэалагічную сутнасць.

Ачышчальная работа партыі — вялікае дабро нашага часу, адзначалі дэлегаты. Многае цяпер убачылася інакш, многае ў кнігах здаецца нясмелым, дробным, згладжаным. І тая перабудова, якая сёння ідзе ва ўсіх сферах жыцця, датычыць і пісьменніцкай арганізацыі.

Звяртаючыся да дэлегатаў з'езда пісьменнікаў-франтавікоў, начальнік Галоўнага палітычнага ўпраўлення Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту **А. Лізічаў** адзначыў, што яны бачылі галоўнае— патрыятызм савецкіх людзей і гераічнае ўсталёўвалі гераічным словам. Дзякуючы гэтаму сённяшняе пакаленне можа зразумець і асэнсаваць, убачыць адзінства героікі ваенных гадоў з днём сённяшнім.

Зацікаўлена, адкрыта, самакрытычна гаварылі прамоўцы аб праблеме сучаснага героя.

Не можа не турбаваць і тое, што, паводле даных сацыёлагаў, толькі трэцяя частка юнакоў і дзяўчат адзначае ўплыў мастацкай літаратуры на развіццё іх маральных і палітычных уяўленняў, падкрэсліў першы сакратар ЦК ВЛКСМ **В. Мішын.** Наўрад ці можна прызнаць нармальным і той факт, што многія пісьменніцкія арганізацыі амаль не папаўняюцца маладымі сіламі.

У спрэчках па справаздачным дакладзе праўлення Саюза пісьменнікаў СССР і дакладзе цэнтральнай рэвізійнай камісіі саюза выступілі **С. Міхалкоў, А. Чакоўскі, С. Залыгін, Ю. Бондараў, М. Грыбачоў, Ф. Кузняцоў, Р. Бакланаў** (Масква), **Б. Алейнік, Ю. Мушкецік** (*Украіна*), **Д. Гранін** (Ленінград), **М. Танк** (Беларусь, выступленне будзе апублікавана), **У. Умарбекаў** (Узбекістан), **Г. Цыцышвілі** (Грузія), **М. Слуцкіс** (Літва), **Р. Гамзатаў** (Дагестан).

З прывітаннямі да VIII з'езда пісьменнікаў СССР звярнуліся Любамір **Леўчаў** (Балгарыя), Лісандра **Атэра** (Куба).

Творчая дыскусія была прадоўжана на пасяджэннях камісій па праблемах прозы, паэзіі, драматургіі, літаратуры для дзяцей і юнацтва, крытыкі.

26 чэрвеня на з'ездзе ў спрэчках выступілі **А. Вазнясенскі, Я. Петэрс** (Латвія), **В. Розаў, В. Шугаеў, А. Алексін, В. Озераў, Ю. Друніна,** старшыня Дзяржкамвыда **М. Нянашаў, Г. Баравік, Я. Еўтушэнка, А. Мішарын, В. Петрасян** (Арменія), акадэмік **Д. Ліхачоў, М. Канаат** (Таджыкістан).

VIII з'езд пісьменнікаў СССР віталі **Нгуен Дзінь Тхі** (В'етнам), **Альдо дэ Яко** (Італія).

У рабоце з'езда прымаюць удзел сакратар ЦК КПСС **А. М. Якаўлеў,** загадчык аддзела культуры ЦК КПСС **Ю. П. Воранаў.**

З'езд працягвае работу.

**ТАСС.**

## ГАСТРОЛІ СЕВАСТОПАЛЬЦАЎ

**Спектаклем «Прыезджыя», у аснову якога пакладзены апавяданні В. Шукшына, у наступную сераду на сцэне Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР у Мінску пачынае свае гастролі Севастопальскі рускі драматычны тэатр імя А. В. Луначарскага. На працягу месяца жыхароў і гасцей беларускай сталіцы чакае сустрэча з лепшымі работамі калектыву. Гэта «Правакацыя» Ю. Сямёнава, «Сентыментальная камедыя» А. Канеўскага, «Святы і грэшны» М. Варфаламеева, «Мая прафесія — сіньёр з грамадства» Д. Скарначчы і Р. Тарабузі і іншыя.**

**Р. КАНЕВІЧ.**

## КОНКУРС СІМВОЛІКІ

**Штогод у складзе Усесаюзнага студэнцкага атрада на новабудоўлі краіны выязджае каля 800 тысяч студэнтаў і вучняў.**

**З мэтай далейшага ўдасканалення працоўнага руху студэнцкай і вучнёўскай моладзі Цэнтральны штаб студэнцкіх атрадаў ЦК ВЛКСМ аб'явіў у 1986 годзе конкурс сімволікі па тэматыцы студэнцкіх атрадаў. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца прафесійныя і самадзейныя мастакі, студэнты, навучэнцы тэхнікумаў і вучылішчаў.**

**Эскізы ўзораў сувенірнай прадукцыі, нагляднай агітацыі, выпрацаваныя на кардоне фарматам 350×450 мм з выкарыстаннем не больш трох колераў без уліку фону, прымаюцца да 15 верасня г. г. у Рэспубліканскім штабе студэнцкіх атрадаў ЦК ЛКСМ Беларусі па адрасе: 220013, *Мінск, вул Я. Коласа,* д. 22, корп. 1. Пры неабходнасці разам з эскізамі прадстаўляецца тлумачальная запіска з прапановамі аб варыянтах выкарыстання конкурсных работ.**

**Аўтары работ, якія найбольш поўна і дакладна выявяць мэты і задачы, палітычную накіраванасць патрыятычнага руху, цікавыя ў мастацкіх адносінах, будуць прадстаўлены да ўзнагароды Ганаровымі граматамі ЦК ВЛКСМ, а таксама ўключаны ў 1987—1988 гадах у склад турыстычных груп, якія выязджаюць за мяжу.**

**Л. ПРАНЧАК,**
**інструктар Рэспубліканскага штаба студэнцкіх атрадаў.**

## СПЯВАЕ СЯМ'Я ПАНКРАТОВІЧАЎ

**Мікалай Якаўлевіч Панкратовіч працуе на Вілейскім камбікормавым заводзе. З дзяцінства захапляецца музыкай, па-майстэрску іграе на гармоніку, баяне. Захапленні мужа па душы прыйшліся жонцы—Ядвізе Аляксандраўне. Падраслі дзеці, і яны пачалі ўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці. Для старэйшай дачкі Святланы музыка стане прафесіяй—паспяхова вучыцца ў Маладзечанскім музычным вучылішчы. Дачка Ала таксама актыўная ўдзельніца мастацкай самадзейнасці. У музычнай школе займаецца і малодшая Наташа.**

**Сям'я Панкратовічаў часта выступае на сцэнічных пляцоўках горада і раёна.**

**Такіх прыкладаў сямейнай творчасці на Вілейшчыне нямала. Аддзел культуры гарвыканкома гэтай сям'і прысвяціў лістоўку.**

**У. ПАДЛЕСКІ.**

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

К. — Я прачытаў пастанову ЦК КПСС і Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб мерах па ўзмацненні барацьбы з непрацоўнымі даходамі і падумаў, як усё-такі многа ў нас крыніц менавіта для такога абагачэння людзей. Мне здаецца, што і сёння існуюць падпольныя мільянеры накшталт Карэйкі з неўміручага «Залатога цяляці» Ільфа і Пятрова. Ды што — здаецца... Аб судовых працэсах над дамарошчанымі мільянерамі з легальным месячным акладам у 120—150 рублёў неаднойчы пісала наша прэса. Варта толькі нагадаць падобныя працэсы ў Растове, Маскве, Узбекістане, Грузіі і г. д.

Успомніўшы падпольнага мільянера Карэйку, я, відаць, зрабіў і пэўную памылку. Тады такія людзі хавалі свае мільёны, вялі ці не жабрацкае жыццё. Сёння чалавек з вялікімі грашыма, нажытымі несумленна, не толькі не хаваецца, а наадварот, выстаўляе сваё багацце напаказ: маўляў, глядзіце і зайздросце. І ведаеце, Сяргей Ігаравіч, як гэта ні сумна, многія зайздросцяць. Не на пустым месцы нарадзілася агідная фразачка: «умее чалавек жыць». Страты, якія наносяць дзяржаве, грамадству розныя махляры, злодзеі і жулікі, вымяраюцца не толькі грашовымі сумамі. А хто ацэніць маральную шкоду, якую яны наносяць, парушаючы прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, парушаючы асноўны закон сацыялізму — ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па працы?

Служба, якую вы ўзначальваеце, Сяргей Ігаравіч, адыгрывае вялікую ролю ў барацьбе з усім гэтым злом. Але, калі гаварыць праўду, дык работа АБРСУ не заўсёды дае належны плён.

**С. Р. — У пастанове і ўказе, на якія вы спасылаліся, пастаўлены, як кажуць, усе кропкі над «і». Партыя нам гаворыць: трэба раз і назаўсёды пакончыць з такімі агіднымі з'явамі ў нашым жыцці, як крадзеж сацыялістычнай уласнасці, спекуляцыя, хабарніцтва, выкарыстанне ў асабістых мэтах дзяржаўнага транспарту, паліва, жылой плошчы і г. д.**

**Што тычыцца эфектыўнасці нашай работы, дык сапраўды ў пастанове ЦК КПСС гаворыцца, што яна мае патрэбу ў карэнным паляпшэнні. Але, акрамя праваахоўных органаў, у гэтым кантэксце называюцца таксама партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі, савецкія і гаспадарчыя органы. Не зразумейце мяне так, што я хачу з некім падзяліць нашу адказнасць, але пагадзіцеся, што не замацуеш за кожнай прахадной завода работніка АБРСУ. І калі на прадпрыемстве вольна сябе адчуваюць так званыя несуны, дык у першую чаргу вінаваты ў гэтым мясцовыя кіраўнікі, грамадскія арганізацыі. У нас яшчэ там-сям тых несуноў ласкава ўгаворваюць не красці.**

**Як раней было? Калі нават і вырашаць прыняць супраць несуна нейкія меры, то самае большае, самае «страшнае» для яго — таварыскі суд ці абмеркаванне на сходзе. Я ўпэўнены, што чалавек, які вынес з завода вырабаў на пяць-дзесяць рублёў — несумненна, злодзей. Пры зручным выпадку ён возьме і болей. Тое самае і хабарніцтва. Чамусьці лічыцца, што хабарнік — гэта чалавек, які бярэ тысячы. А хіба службовая асоба, што за нейкую паслугу іншай асобе, паслугу не за свой, а за дзяржаўны кошт, дазваляе весці сябе ў рэстаран — не хабарнік? Ва ўсякім разе ў маральным плане тут усё ясна.**

**Вы ведаеце, што ва ўказе меры пакарання і для асоб, якія зрабілі дробны крадзеж дзяржаўнай ці грамадскай маёмасці, — узмоцнены. Цяпер, калі дзеянні такой асобы не прадугледжваюць крымінальнай адказнасці, яна падвяргаецца**

# ЗАЛАТОЕ ЦЯЛЯ НА ПАПАСЕ

**З начальнікам Упраўлення барацьбы з раскрадальнікамі сацыялістычнай уласнасці Міністэрства ўнутраных спраў БССР С. І. РУХЛЯДЗЕВЫМ гутарыць карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва»**

**Непрацоўныя даходы, крадзеж сацыялістычнай уласнасці, спекуляцыя, хабарніцтва, дармаедства... Вытокі гэтых ганебных з'яў, барацьба з імі — тэма гутаркі нашага карэспандэнта напярэдадні ўводу ў дзеянне — 1 ліпеня 1986 года — Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб узмацненні барацьбы з атрыманнем непрацоўных даходаў».**

**штрафу ў памеры ад дваццаці да двухсот рублёў, ці да папраўчых работ на тэрмін ад аднаго да двух месяцаў з утрыманнем дваццаці працэнтаў заробку, ці мерам грамадскага ўздзеяння з пакрыццём матэрыяльнага ўрону. Такія асобы таксама пазбаўляюцца ўсіх відаў прэмій, ільгот, грашовых выплат па выніках года, першачарговага атрымання кватэры і г. д.**

**Што тычыцца хабарніцтва, дык тут у асабліва сур'ёзных выпадках прадугледжана пазбаўленне волі ад васьмі да пятнаццаці гадоў, а то і пакаранне смерцю.**

**Вось вам адзін з апошніх прыкладаў. Мінскім гарадскім судом быў асуджаны на доўгі тэрмін зняволення ў папраўча-працоўнай калоніі строгага рэжыму намеснік начальніка аддзела матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння Беларускага лесаўпарадкавальнага прадпрыемства В. Браднейскі, які, прымаючы ўдзел у размеркаванні кватэр, атрымаў хабар у суме 3 тысяч рублёў.**

К. — У дакументах, пра якія мы гаворым, прадугледжваецца і павышэнне адказнасці кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і калгасаў за ўмацаванне парадку, арганізаванасці і дысцыпліны, уліку і г. д. Сапраўды, у несуна, мабыць, асноўная праблема — пранесці ўкрадзенае праз прахадную (а, бывае, і такой праблемы няма). Узяць тую ж шакаладку ці пачак цукерак, нейкі дыёд-трыёд на радыёзаводзе, падшыпнік — на падшыпнікавым... (ледзь не вырвалася — трактар — на трактарным заводзе, хоць гэта і не было б вялікай фантазіяй, мне расказвалі работнікі гэтага завода, што з дэталей, якія тут выносяць, можна было б сабраць не адзін трактар) — украсці іх зусім няцяжка, бо ў цэхах прадукцыя, як правіла, нялічаная. Колькі пісалася ўжо, што каля магазінаў можна купіць, напрыклад, самыя дэфіцытныя дэталі для любой аўтамашыны, дэталі, якія ў магазіне ніколі не знойдзеш.

Чаму, усё-такі, як правіла, беспакарана дзейнічаюць гэтыя дзялкі? Мне здаецца, варта было толькі гадзінку пастаяць інспектару АБРСУ каля магазіна, дзе прадаюцца тыя ж запчасткі да машын ці дэфіцытныя жаночыя боты, і ён бы ўбачыў не аднаго «камерсанта». Не, я не змяншаю заслуг АБРСУ ў барацьбе са злачынствамі, але, але...

Характарызуючы бюракрата, мы часта кажам пра яго: «не бачыць за паперай чалавека». Тут маецца на ўвазе — сумленнага чалавека. Але ж, бывае, што за паперай хаваецца прайдзісвет, жулік. І гэтая паперка яму — як індульгенцыя. Я вам раскажу такі выпадак. У свой час мне давялося працаваць над тэмай дачнага будаўніцтва. Я даведаўся, што ў адным садовым таварыстве ў Мінскім раёне працуе брыгада шабашнікаў, дзе брыгадзірам інжынер, начальнік аддзела аднаго з праектных інстытутаў. Дык вось гэтыя шабашнікі будавалі дачы з уласнага матэрыялу, як кажуць, пад ключ. Шэсцьсем тысяч, і калі ласка, усяляйся. Ну, шабашнікі — ёсць шабашнікі. Хто супраць іх, хто лічыць, што без іх не абысціся. Але мяне зацікавіла, дзе яны бяруць будаўнічыя матэрыялы — цэмент, за якім на той час стаяла тысячная чарга, дэфіцытную цэглу, дрэва і г. д. Падключыў я да гэтай справы работнікаў абласнога АБРСУ. Прозвішчы іх я называць не буду, не ў гэтым справа, раскажу толькі, як усё адбывалася. Два супрацоўнікі і я прыехалі ў тое садовае таварыства ў суботу і акурат натрапілі на брыгадзіра-інжынера. Мае спадарожнікі пачалі яго распытваць, як і дзе ён набывае будаўнічыя матэрыялы, афіцыйна аформіўшы яго паказанні пратаколам. Я кажу — паказанні, але гэта быў вельмі блытаны расказ і нават мне, не крыміналісту, стала зразумела, што ён, як кажуць, «цямніць». Мае спадарожнікі прапанавалі яму паехаць з імі ў аддзел. Брыгадзір пагадзіўся, толькі сказаў, што ў яго тут стаіць свая машына, на якой ён і паедзе следам. Прайшла мінута ці дзве, як раптам чырвоны «Жыгуль» маланкай прамчаў воддаль і па шашы панёсся ў бок Мінска. Пачалася пагоня, амаль як у кіно, не было толькі крутых віражоў і скрыгату тармазоў. Дагнаць яго не ўдалося. Гарадскі адрас яго мы ведалі і адразу накіраваліся да кватэры. Як і трэба было чакаць, яго там не было. У панядзелак я пазваніў у аддзел і даведаўся, што толькі што ўцякач туды прыходзіў і паклаў на стол следчага стос розных квітанцый, распісак, нарадаў, даведак і г. д., якія сведчылі, што матэрыялы былі куплены яшчэ да таго, як сталі дэфіцытнымі. На пытанне, чаго ж ён уцякаў, сказаў, што проста спалохаўся, бо ніколі раней не меў справы з міліцыяй... Праз некалькі дзён вашы таварышы зрабілі абмеры дач, каб суаднесці гэта з колькасцю купленых будаўнічых матэрыялаў. Ведаеце, усё сышлося цюцелька ў цюцельку. Хоць і дурню было зразумела, што ўцёк інжынер-шабашнік, каб таго-сяго папярэдзіць, здабыць неабходныя дакументы. Ён, мне казалі, са сваёй брыгадай дзейнічае і сёння.

**С. Р. — Той уцёк да справы не падшыеш, і калі дакументы былі ў парадку, што ж тут зробіш? Ніякі суддзя не ўзяў бы такой справы на разгляд.**

К. — Адным словам, не злоўлены — не злодзей?

**С. Р. — А вы як думалі? *Інакш можна і невінаватага чалавека пакрыўдзіць.* Толькі падазрэннем. Нам ідзе нямала ананімак. А паедуць правяраць, як правіла, — паклёп, нехта такім спосабам хоча звесці ўласныя рахункі. Я не кажу, што так было ў выпадку, пра які вы расказалі. *Магчыма, справа да канца не была расследавана,* трэба было, відаць, калупнуць глыбей. Але закон ёсць закон, і парушаць яго нельга нікому, тым больш нам.**

К. — А мо наша заканадаўства ў гэтых адносінах патрабуе пэўнага ўдасканалення?

Скажам, стаіць за прылаўкам цётка з залатымі пярсцёнкамі ці не на кожным пальцы, з брыльянтавымі завушніцамі, і глядзіць на цябе з пагардай. Бо ў яе яшчэ і машына ёсць, і дача-церам. І колькі тут ні рабілі праверак — усё ў яе «чыста». Колькі іх такіх цётак і дзядзькоў з акладам у сто рублёў, якія «каштуюць» дзесяткі і сотні тысяч!

**С. Р. — Зараз людзі, якія зробяць, скажам, пакупку больш як на дзесяць тысяч рублёў ці задумаюць будаваць дом або дачу коштам больш як дваццаць тысяч рублёў, павінны будуць прад'яўляць фінансавым органам дэкларацыю аб крыніцах даходаў.**

К. — А прэзумпцыя невінаватасці? Яна не будзе парушана?

**С. Р. — Ні ў якім разе. Наша грамадства мае поўнае права спытаць у чалавека, які жыве не па сродках, — адкуль у цябе такія грошы?**

К. — Атрымаў спадчыну, выйграў па латарэі, знайшоў скарб...

**С. Р. — Прыватныя выпадкі. Каб толькі гэтым абмяжоўвалася кола людзей, якія жывуць не па кішэні, было б усё добра. Бяда ў тым, што жулікаў, махляроў, казнакрадаў куды болей. Непрацоўны даход — рэч абсалютна зразумелая.**

К. — Сярод пераліку крыніц непрацоўных даходаў — і пабоpы. Страшэнная з'ява! Якіх толькі варыянтаў тут няма. Вось толькі некалькі. «Кран цячэ? Нам такіх пракладак не даюць. Праўда, у мяне ёсць свая...» «Тэлевізар бяром на месяц. Адрамантаваць хутчэй? Ідзіце да майстра...» «Месц няма і не будзе! Дзе начаваць? А я пры чым? Што? А... Здаецца, адзін нумар вызваліўся...» Ведаеце, Сяргей Ігаравіч, гэта ці не самае вялікае, што ўелася ў наша жыццё, паскудства. Блат, па блату, па знаёмству... Я сам нядаўна выпадкова падслухаў размову дзвюх прадаўшчыц гастранома, што «званіла Каця з ЦУМа, казала, каб хутчэй беглі, у іх французскі дэзадарант выкінулі».

А факты пабораў пры паступленні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы? У бальніцах? Прыёме на працу? Ці не здараецца, што мы больш гаворым пра вынікі, забываючыся на прычыны? А прычыны махлярства, спекуляцыі, пабораў крыюцца ў дэфіцыце многіх тавараў і паслуг. Каб табе адразу пасля тэлефоннага званка прыйшлі рамантаваць кватэру (рамантаваць добра, па дзяржаўных расцэнках), не трэба было б тых маляроў-сталяроў частаваць, ды соваць ім у кішэні траякі. Тое самае з многім іншым — ад продажу запчастак да рамонту тэлевізара...

**С. Р. — У *пастанове* ЦК КПСС патрабуецца надаць самую сур'ёзную ўвагу павелічэнню вытворчасці тавараў павышанага попыту, пашырэння продажу насельніцтву будаўнічых матэрыялаў, запасных частак, аказанню бытавых паслуг і г. д.**

**На ўсё гэта патрабуецца, вядома, пэўны час, але я вам скажу, што, часам, дэфіцыт ствараецца штучна з-за абыякавасці, нераспараджальнасці адказных службовых асоб.**

**Хто не разумее, што хабар прысутнічае там, дзе няма парадку, дзе чалавек не можа атрымаць таго, што яму належыць па закону! Я, вядома, ні ў якім разе не апраўдваю тых, хто дае хабар—той, хто дае, і той, хто бярэ, па сутнасці, аднаго поля ягады. Але мы часта сутыкаемся з фактамі, калі самі абставіны ствараюць сітуацыю, якая прымушае сяго-таго ісці крывымі сцежкамі. Гэта вынік і бюракратызму, і валакіты, і безадказнасці. Узяць, да прыкладу, тых самых штурхачоў. Чалавека пасылаюць за тысячу кіламетраў, каб ён на заводзе-пастаўшчыку паскорыў адгрузку нейкіх там дэталей, будаўнічых матэрыялаў, станкоў і г. д. І вось ён на месцы шукае хады-выхады, каб атрымаць тое, што яго прадпрыемству належыць па праву. Як ён гэта робіць? Рознымі шляхамі. Вязе з сабой так званыя сувеніры — каньяк, дарагія цукеркі, пацеркі (гледзячы з кім ён мае справу) і г. д., а, бывае, і гэтым не абыдзецца. А, ведаеце, ад таго «падарунка» да злачынства — адзін крок.**

К. — Сяргей Ігаравіч, у некаторых газетах апошнім часам вядзецца дыскусія наконт дазволу людзям, якія маюць уласныя аўтамашыны, браць пасажыраў, каб зарабіць сабе на бензін і запчасткі, якія каштуюць дорага. Цікава, што вы думаеце на гэты конт?

**С. Р. — Я — супраць. Гэтыя «бензін і запчасткі» проста шырма. Ды і як адрозніць клопат аб «бензіне» ад клопату аб элементарнай нажыве? Па сутнасці, гэта будзе прыватнапрадпрымальніцкая дзейнасць, якая ў нас строга рэгулюецца законам.**

К. — Некалі мне давялося пісаць пра «дзікія» вясельныя аркестры. Не толькі пра іх рэпертуар, а і пра заробкі, якія і не сніліся, скажам, музыкантам сімфанічнага аркестра. Пісаў і пра тое, што ўсё гэта адбываецца па-за ўвагай фінансавых органаў. Тыя вясельныя музыканты на артыкул вельмі ўзлаваліся, званілі дахаты з пагрозамі. Пра гэтыя званкі можна было б і не ўспамінаць, але прыгадалася таму, што тым музыкантам, аказалася, не было чаго трывожыцца. З Міністэрства фінансаў нам даслалі блытаную адпіску і ўсё засталося па-ранейшаму.

І вось цяпер я з вялікай цікавасцю прачытаў ва ўказе, што парушэнне парадку заняткам саматужна-рамеснымі промысламі і іншай індывідуальнай дзейнасцю караецца немалым штрафам з канфіскацыяй выробленай прадукцыі, прылад вытворчасці (мо і музычных інструментаў саматужных музыкантаў?).

На Камароўскім рынку ў Мінску гандлююць тымі саматужнымі вырабамі — ад вясельных суконак і вэлюма для маладой да «твораў» з гіпсу ў выглядзе размаляваных анёлаў, — мабыць, не меш, чым прадуктамі. Гледзячы на ўсё гэта, я заўсёды думаю: а ці плацяць яны, як усе мы, падаходны падатак? Наогул, падатак на прыватную дзейнасць? Мяркуючы па тым, што гэтай тэме аддадзена значнае месца ва ўказе, парушэнняў тут хапае.

**С. Р. — Дарэчы, цэны на сваю прадукцыю саматужнікі ўстанаўліваюць адвольна, без усякай залежнасці ад затрачанай працы і кошту сыравіны. Многія з іх ухіляюцца ад рэгістрацыі ў фінансавых органах, маняць, *імкнучыся не плаціць* падаткаў у законным аб'ёме. Зараз будзе ўстаноўлена адміністрацыйная і крымінальная адказнасць за нясвоечасовае прадстаўленне дэкларацыі аб даходах або прадстаўленне хлуслівых звестак аб іх.**

К. — Выхаванне сумленнага, прыстойнага чалавека павінна пачынацца са школы.

**С. Р. — Вядома! Помніце, у «Комсомольской правде» быў змешчаны шэраг артыкулаў, дзе прыводзіліся факты ледзь не антаганізму паміж вучнямі, якія прыходзілі на ўрокі з залатымі завушніцамі, пярсцёнкамі, і тымі, хто гэтага не меў. Мне здаецца, што гэта павінна насцярожваць. Я ўпэўнены, што тыя вучаніцы з «золатам», як правіла, паходзяць з сем'яў, дзе грошы не лічаць. А не лічаць іх там, дзе здабываюць несумленным спосабам. Хто вырасце з дзяцей, якія дома выхоўваюцца на кульце грошай?**

К.—Сяргей Ігаравіч, ва ўказе надаецца вялікая ўвага барацьбе са скормліваннем хлеба, мукі, круп жывёле. Неяк па радыё прагучала ў адным выступленні такая лічба — па краіне за год жывёле скормліваецца каля чатырох мільёнаў тон хлеба. Жахліва! Нядаўна мне давялося браць інтэрв'ю ў міністра хлебапрадуктаў БССР Мікалая Сцяфанавіча Якушава. Ён адзначыў, што і ў нашай рэспубліцы таксама распаўсюджана гэтая з'ява.

**С. Р. — Работнікамі АБРСУ апошнім часам прыцягнута да крымінальнай адказнасці нямала асоб, менавіта, за скормліванне хлеба жывёле. Сярод іх калгасніца сельгасарцелі «Зара» Чавускага раёна Н. Драздова, якая за апошнія два гады скарміла скаціне (у яе дзве каровы, два цяляці, пяць свіней і тры авечкі) тону хлеба, чатырыста кілаграмаў круп, 225 кілаграмаў макаронных вырабаў. Грузчык магазіна на станцыі Сцяпянка Мінскага раёна Матусаў штодзень купляў па дваццаць—дваццаць пяць буханак хлеба, якімі карміў чатырох бычкоў. Цяпер за такое марнатраўства вінаватыя будуць па першым разе штрафавацца на суму ад 50 да 100 рублёў, а калі гэта паўторыцца, ды ў буйных памерах — прыцягвацца да папраўчых работ на тэрмін да двух гадоў.**

К. — Сяргей Ігаравіч, праца вашай службы спецыфічная. Я наглядаў на некаторых судовых працэсах, дзе разглядаліся справы аб прысваенні дзяржаўных сродкаў, як пазяхаюць прысутныя ў зале, слухаючы пералік розных даведак, каштарысаў, накладных, рахункаў і іншай «бухгалтэрыі». Іншая справа — скасаванне шлюбу ці забойства. Тут зала сядзіць, стаіўшы дыханне. І ў галаву многім не прыходзіць, што за кожнай лічбай, паперкай, якой фігуруе суддзя, стаіць, бывае, штомесячная карпатлівая, цяжкая праца следчага, якому мала быць юрыстам, трэба быць і бухгалтарам, і эканамістам, і рахункаводам, каб сарыентавацца ў моры папер, дзе толькі мо адна з іх і хавае сляды злачынства.

**С. Р. — Гэта сапраўды так. Колькі давялося папрацаваць капітану Мікалаю Мікалаевічу Кудзельку, начальніку аддзялення БРСУ Першамайскага РАУС г. Мінска, пакуль была раскрыта злачынная група, якая займалася крадзяжом гадзіннікавых дэталей на Мінскім гадзіннікавым заводзе.**

**А справа аб крадзяжы 20 кілаграмаў серабра на адным з мінскіх заводаў?.. Нашы супрацоўнікі выязджалі ў многія куткі краіны, каб выявіць сувязі злачынцаў.**

**Такіх прыкладаў можна прыводзіць шмат. А наогул я хачу адзначыць, што апошнім часам служба БРСУ папоўнілася вопытнымі спецыялістамі, многія з якіх, дарэчы, маюць дыпломы інстытута народнай гаспадаркі, фінансавых інстытутаў.**

К. — Дзякуй, Сяргей Ігаравіч, за змястоўную, цікавую гутарку.

**Гутарку вёў М. ЗАМСКІ.**

**ПАЭЗІЯ**

**Васіль ЗУЁНАК**



# З НЬЮ-ЙОРКСКАГА СШЫТКА

## Бярозкі на Чацвёртай авеню

Бярозкі на Чацвёртай авеню,
З якога вы павыбеглі агню?

Адкуль уратаваліся і ўсе,
Бяздомныя, паселі на страсе?..

І чую, як бярозкі з вышыні
Мне шэпчуць: «Ты на нас, браток, зірні:

Ад гáры мы ўжо дыхаем ледзь-ледзь,
Не тое, каб шумець ды зеляне́ць...

Лісцінкі — як на пальцах палічыць,
Сціскаюць стан бетонныя лычы.

Каб не яны, даўно б цераз карніз
Зляцелі ад жыцця такога ўніз...»

Хто ж домаўласнік той ці домаўпраў,
Што вас зняволіў і да рук прыбраў?

«А вось ён, у басейне, як мядзведзь,
А мы над ім павінны тут шумець, —

Зацеяў на страсе дамашні рай
І зацягнуў з пяці бярозак гай...»

Што ж, ясна мне: машэннік альбо туз
З прыродаю наладжвае саюз,

Здароўе папраўляе, што ад спраў
І чорных махінацый падарваў...

Эх, каб не чортаў суверэнітэт,
Цябе я спёр бы з неба, прайдзісвет!..

Шкада, што не магу... Таму крычу
Бярозкам: «Плюньце ў твар свайму
крычу, —

Злязайце да мяне! Зmяцём брыду—
Я вас у гай над Начай завяду.

Там з вамі я пераэнаёмлю ўсіх —
Ад мурашоў да зайцаў і ласіх.

А з дрэвамі вы самі ў добры час
Шаптаць пачнеце — зразумеюць вас.

Грыбы і ягады пачнеце гадаваць,
Каб і мяне калі пачаставаць...

...Ідуць за мной бярозкі—след у след...
Калі паедзем? Гэта наш сакрэт.

Заставы ўсе, таможні абагнём...
Сюды ж — і фота нават не прышлём!

## Магчымасці

Погляд на праблему вачыма з беспрацоўнай чаргі

Ёсць баечка, як босам
Зрабіцца хтосьці змог:
Хадзіў спачатку босы,
А зараз — цар і бог.

Маўляў, у нас дзяржава
Магчымасцей для ўсіх,
На ўсё ты маеш права—
Адно лаві свой міг.

Вось так і ладзіш «ловы»,
Пакуль туман сплыве
І прарасце выснова
Аднойчы ў галаве:

— Сядзіш не ў тым трамваі,
Пустая галава:
Магчымасці ты маеш,
Ды дзе яны, не знаеш, —
І ёсць, але — няма...

Нібы ў кішэні кукіш,
Магчымасці твае:
І паліўкі не купіш,
Як цэнта не стае...

Заўсёды той таўсцее,
Каму зганяць бы тлушч,
А той, хто быў не ў целе,
Той сохне, нібы хрушч...

Магчымасці — пароўну,
А грошы — хто сабе:
І клерк, і Сэм галоўны
Ў сваю кішэнь грабе...

Такая панацэя,
Такая тут дзяльба:
Багаты багацее,
А беднаму — труба...

## Слова ў адказ англійскаму дыпламату на дыскусіі аб Фалклендскіх астравах

Помню расфарбоўку школьнай карты:
Быў Англа-егіпецкі Судан
Паласаты, нібы ў арыштанта
Світку ўзяў, каб ахінуць свой стан.

Паласа зялёная жагнала
Жоўтую пустыню наўскасы:
Паўзямлі за кратамі трымала
Англія ў нядаўнія часы.

Ды патрэслі вольныя віхуры
Самы дальні, што ні ёсць, куток:
Збеглася шагрэневаю скурай
Вялікабрытанія ў шматок.

Ні калоній, ні дамініёнаў,
Ні былой імперыі марской,
Што заакіянскія мільёны
Вудзіла — аж блісkалі луской.

Ёсць Судан на карце і Егіпет —
І прысоскі «англа...» больш няма...
Сэр, ці ўсё смакуеш пірагі ты,
Што пякла калонія-турма?..

Пэўна ж так, бо колькі маеш спрыту,
Круціш словам, як падробкай маг,
Па апошнім валаску нібыта,
Плачаш па Фалклендскіх астравах.

Нібы за саломінку, ухапіўся
За друзок заморскае зямлі.
Хопіць, сэр, кажу табе: змірыся,
Аддавай, — не столькі аддалі!..

Не ў твой бок глядзіць граніца тая.
Просіць гаспадар — ідзі дамоў.
Сэр, прарэхі ўсе не залатаеш
Латкамі Фалклендскіх астравоў...

Кроплю адміральскую з нагоды
Выпі рому ды кладзіся спаць.
Зразумей: надзею на свабоду
І ў малой зямлі не адабраць.

## Царкоўны баль у Нью-Джэрсі

У царкве святой
Круглы год — застой:

Ці спявай псалмы,
Ці шыбай грамы, —

Як аглух прыход:
Не ідзе народ.

Не ідзе — хоць плач,
Хоць пускайся ў скач...

Тут і ўздумаў поп:
«Ну, а што было б?..
Ну а што — калі б?..
З чортам — мы змаглі б!..»

І каб статак мець,
Каб звінела медзь,
Каб не звёўся чмур,
Поп адкрыў карчму.

Пры царкве прыдзел
Пеклам загудзеў...

Я ў царкве той быў.

Хоць не чорт рабы
І не д'ябал я —
Слыў за салаўя:
Горла песняй драў,
Піў настоі траў,
Калі б быў з чарцей —
Браў бы што й мацней...

Валам паства прэ —
Поп усіх бярэ:
Хрысціянін ёсць,
Мусульманін ёсць,
Ёсць і іудзей, —
Словам, шмат людзей...

А за карчмара
Выбраў ліхвяра —
Чорта, што ў Гудзон
Выкінуў амвон,
Сам жа — у царкве,
Быццам бог, жыве.
Водзіць скокаў рэй
Ля святых дзвярэй.

Старыя і малыя
У шэйку круцяць шыі.

Гандляр кладзецца лістам —
З гандлярскай чэша твіста.

Дзе чарка—там і вэрхал:
Аж крыж трасецца зверху
І дзве рукі ўзнімае:
«Што ж мне не наліваюць?!»

Весяліцца чорт,
Б'е ў піцці рэкорд, —

Хай жыве карчмар
І яго тавар!..

## «Бацькі» і «дзеці»

Корпус прэсы цісне, як пад прэсам,
Інтэрв'ю ў газетную калонку,
Адгалоскі хронікі пярэстай
З прэс-рэлізаў злізвае ўдагонку.

Ход падзей і думак баранує,
Бараноў сенсацыяй частуе,
Потым набіваецца ў піўную,
Цэдзіць брагу сонечна-густую

І талкуе пра пустыя рэчы:
Хто каму і як наставіў рожкі,
Пра недаагоеныя плечы,
Пра паходку і пра ножкі трошкі...

Змахвае навінаў павуціну,
Што са свету знесены па ніткі, —
Сапраўды ж: хоць раз бацькі павінны
На дзяцей-няўдаліцаў забыцца...

## Кот-Васька

Клікалі Васькам-катом, —
Дражнілка гадоў дзіцячых...
Нарэшце, жыву з хвастом
(І дзве хвасціхі ў прыдачу!)...

Хвост — ён так сабе, хлюст:
Ні мух адагнаць, ні прыкрыцца.
Хвасціхі ж — някепскі густ
У амерыканскай сталіцы!..

Так і віюцца за мной
Па галерэі мастацтва.
Глянеш — дык о-ё-ёй! —
Ці драпнуць? Ці прывітацца?..

Падумаеш грэшна не раз:
Быццам сышлі з карціны...
Мадонны! Які багамаз
Вас у музей падкінуў?.

Кажаце, ЦРУ?
Маэстра іменем бога?..
Ад сораму ледзь не гару:
Не знаў мастака такога...

Ну што ж, папоўнім крыху
Запас, як гавораць, культурны...
І ўсё ж — далей ад граху,
Далей ад красы агентурнай...

Цікуюць дзяўчаты сляды,
Ды так і не вызнаць, здаецца,
Навошта прыйшоў я сюды,
З кім патаемна сустрэцца...

Чаму да карцін сігануў,
Якое маю заданне?..
Нязлосна я падміргнуў
Хвасціхам на развітанне...

Але ж: прыгажуні... З такой
Прайсці б беражком Патамака,
Палюбавацца ракой
І вершам лірычна паплакаць...

Ды іншы ў дзяўчат інтарэс,
І трэба збірацца паціху, —
Не ў тыя настроі палез...
Дзякуй за хвост, хвасціхі!..

Вы заставайцеся тут,
А я засумую горка,
Хоць ёсць яшчэ хвост на маршрут:
Ён даведзе да Нью-Йорка.

Машына бярэ разгон, —
Гэй, расступіцеся, Штаты,
Дарогу дай, Вашынгтон:
Кот Васька едзе хвастаты!

**АБ'ЯВЫ**

# МІНСКІ ІНСТЫТУТ КУЛЬТУРЫ

### аб'яўляе прыём студэнтаў на дзённае навучанне

**Факультэт культурна-асветнай работы.** Спецыялізацыі: арганізацыя і методыка КАР, кіраўніцтва самадзейным тэатральным калектывам, кіраўніцтва самадзейным харавым калектывам (акадэмічны хор, народны хор), кіраўніцтва самадзейным аркестрам народных інструментаў, кіраўніцтва самадзейным духавым і эстрадным аркестрам, кіраўніцтва самадзейным танцавальным калектывам, рэжысура і арганізацыя масавых святаў.

**Факультэт бібліятэказнаўства і бібліяграфіі.** Спецыялізацыі: бібліятэказнаўства і бібліяграфія мастацкай літаратуры і літаратуры па мастацтве, бібліятэказнаўства і бібліяграфія сельскагаспадарчай літаратуры, бібліятэказнаўства і бібліяграфія дзіцячай літаратуры, бібліятэказнаўства і бібліяграфія тэхнічнай літаратуры, методыка выкарыстання сродкаў механізацыі ў бібліятэчнай рабоце.

Асобы, якія паступаюць, прадстаўляюць наступныя дакументы: заява на імя рэктара інстытута па ўстаноўленай форме (Дадатак № 2 да Правілаў прыёму ў ВНУ), дакумент аб сярэдняй адукацыі (арыгінал); характарыстыка для паступлення ў ВНУ з апошняга месца працы або вучобы, выдадзеная партыйнымі, прафсаюзнымі і іншымі грамадскімі арганізацыямі, кіраўнікамі прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і завераная пячаткай (прадстаўленне характарыстыкі звольненымі ў запас ваеннаслужачымі неабавязкова); выпіска з працоўнай кніжкі або кніжкі калгасніка, завераная адміністрацыяй; медыцынская даведка па форме № 086/у; шэсць фотакартак для дакументаў, памерам 3×4 см.

Пашпарт, дакумент аб дачыненні да воінскага абавязку прад'яўляюцца асабіста па прыбыцці ў інстытут.

Заява і іншыя дакументы прымаюцца з 1 па 31 ліпеня.

Асобы, якія паступаюць у інстытут, здаюць уступныя экзамены ў залежнасці ад абранай спецыяльнасці па наступных дысцыплінах:

**на спецыяльнасць культурна-асветная работа** — па спецыялізацыі, рускай або беларускай мове і літаратуры (сачыненне), грамадазнаўстве (вусна);

**на спецыяльнасць бібліятэказнаўства і бібліяграфія** — па рускай або беларускай мове і літаратуры (сачыненне), рускай або беларускай мове і літаратуры (вусна), грамадазнаўстве (вусна).

Узнагароджаныя пасля заканчэння сярэдняй школы залатым (сярэбраным) медалём, тыя, хто закончыў сярэднюю спецыяльную навучальную ўстанову або сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча з дыпломам з адзнакай, здаюць адзін экзамен, устаноўлены прыёмнай камісіяй: на спецыяльнасць культурна-асветная работа — па спецыялізацыі; на спецыяльнасць бібліятэказнаўства і бібліяграфія — па рускай або беларускай мове і літаратуры (вусна). Пры атрыманні ацэнкі «пяць» яны вызваляюцца ад далейшай здачы экзаменаў, а пры атрыманні ацэнкі «чатыры» або «тры» здаюць уступныя экзамены па астатніх дысцыплінах.

На асоб, якія закончылі з дыпломам з адзнакай сярэднія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы на базе сярэдняй адукацыі, указаны парадак распаўсюджваецца пры паступленні на спецыяльнасці, адпаведныя атрыманым прафесіям.

Уступныя экзамены праводзяцца з 1 па 20 жніўня па праграмах, складзеных адпаведна з навучальнымі праграмамі сярэдняй агульнаадукацыйнай школы і зацверджаных Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР.

Яўка на прафарыентацыйную гутарку і на экзамены — па выкліку прыёмнай камісіі.

Дакументы накіроўваць на адрас: 220001, г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17. Мінскі інстытут культуры. Прыёмная камісія (указаць спецыяльнасць). Даведкі па тэл.: 25-48-89.

**Рэктарат.**

гісторыю, яго творчая мэта— уваскрэсіць мінулае свайго народа, і ажыццяўленню гэтай мэты ён аддае ўвесь свой талент і нястрымную фантазію. У апавяданні «Барвяны шчыт» ён развівае ідэю аб тым, што чалавек не можа жыць толькі ў рамках вызначанага яму прыродай часу, які абмежаваны датамі яго нараджэння і смерці. Чалавек жыве і тым, што засталося яму ад дзядоў, і—чым прасякнута ўся яго свядомасць, і тым, што прыйдзе пасля яго і, што здзейсніць яго мары».

Доктар Д. Б. Дхаван у прадмове да «Анталогіі беларускай паэзіі» (1985), што выйшла ў Індыі на мове каннада, зазначыў: «Гэта анталогія ўзрушыць розумы і сэрцы нашых маладых паэтаў, яны будуць натхнёны тым шляхам, які прайшоў беларускі народ, Беларусь— адна з раўнапраўных рэспублік Савецкага Саюза, першай сацыялістычнай дзяржавы».

У краінах, дзе яшчэ неглыбока засвоена наша літаратура, знаёмства з ёю звычайна пачынаецца са зборнікаў і анталогій або з твораў Васіля Быкава.

Мне ўжо даводзілася пісаць у «Кнігапісе» «ЛіМа» пра аўтарскі склад анталогіі паэзіі на мове каннада. І вось атрымалі новы прыемны падарунак з Індыі—зборнік твораў беларускіх сучасных паэтаў на мове хіндзі. У яго ўключаны вершы Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Данугы Бічэль-Загнетавай, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага, Ніла Гілевіча, Сцяпана Гаўрусёва, Анатоля Грачанікава, Васіля Зуёнка, Янкі Сіпакова.

Пад эгідай ЮНЕСКА выйшлі анталогія паэзіі «У краі паэтаў» (Францыя), анталогія беларускага апавядання (Канада), а таксама кніга Івана Навуменкі «Янка Купала і Якуб Колас» (Францыя).

У Манголіі, дзе і раней выдаваліся творы нашай літаратуры, выйшлі «Апавяданні беларускіх пісьменнікаў», у Англіі—анталогія беларускай паэзіі. У В'етнаме надрукавана кніга аповесцей Васіля Быкава «Альпійская балада», «Пайсці і не вярнуцца», у Партугаліі—«Сотнікаў».

Пакуль рыхтаваўся артыкул да друку, прыйшлі звесткі, што выйшлі кнігі — у ГДР і В'етнаме «Дзікае паляванне караля Стаха», у Чэхаславакіі — «Чорны замак Альшанскі» (на чэшскай мове) У. Караткевіча, у Польшчы — «Пайсці і не вярнуцца» В. Быкава, у Югаславіі — зборнік вершаў М. Танка.

У анталогіях, зборніках, у перыядычным друку замежных краін змяшчаліся паасобныя творы многіх беларускіх пісьменнікаў. Часопіс «Советская литература», які выходзіць у Маскве на замежных мовах, прысвяціў беларускай літаратуры свае выпускі на англійскай, венгерскай, іспанскай, нямецкай, польскай, французскай мовах.

У выдавецтвах «Прогресс», «Радуга», «Юнацтва» на замежных мовах выйшлі кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Янкі Брыля, Васіля Быкава, Івана Шамякіна, Алеся Адамовіча, Рыгора Барадуліна, Івана Чыгрынава, кнігі для дзяцей і юнацтва Петруся Броўкі, Максіма Танка, Васіля Віткі, Алега Лойкі, Паўла Марціновіча, Алеся Якімовіча і інш. Выдавецтва «Юнацтва» выдае літаратуру на 12 замежных мовах. За пяць год выдадзена 82 назвы тыражом больш за 3 млн. 600 тыс. экземпляраў. Кнігі высылаліся ў большасць краін Еўропы (Бельгія, Галандыя, Фінляндыя, Францыя, ФРГ і інш.), у Аўстралію, у краіны Азіі і Лацінскай Амерыкі.

Збываюцца прарочыя словы Янкі Купалы. Беларусь займае «свой пачэсны пасад між народамі».

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**

# Генадзь Іванавіч ЦІТОВІЧ

Савецкае мастацтва панесла цяжкую страту.

20 чэрвеня 1986 года на 76-м годзе жыцця памёр вядомы музычны дзеяч, народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Генадзь Іванавіч Цітовіч.

Не стала яркага, самабытнага музыканта, дырыжора, этнографа, музыказнаўца, з імем якога звязаны многія слаўныя старонкі беларускай музычнай культуры.

Г. І. Цітовіч нарадзіўся 7 жніўня 1910 года ў сяле Новы Пагост Міёрскага раёна ў сям'і настаўніка. У 1939 годзе закончыў Віленскую кансерваторыю. У перадваенныя і пасляваенныя гады працаваў рэдактарам радыё, кансультантам



Дома народнай творчасці. Арганізаваўшы ў 1952 годзе Дзяржаўны народны хор БССР, Генадзь Іванавіч Цітовіч больш як дваццаць гадоў з'яўляўся яго мастацкім кіраўніком. Пад кіраўніцтвам Г. І. Цітовіча гэты мастацкі калектыў стаў шырока вядомы ў краіне. Асабліва ярка і поўна раскрыўся яго талент у інтэрпрэтацыі народных песень і твораў беларускіх кампазітараў.

З 1974 года Г. І. Цітовіч — супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Нястомны і страсны прапагандыст народнага мастацтва, ён усё сваё жыццё збіраў і даследаваў музычны фальклор Беларусі. Ім запісана каля трох тысяч народных мелодый, якія ўвайшлі ў фундаментальную працу «Анталогія беларускай народнай песні». За гэту работу, а таксама за манаграфію «Аб беларускім песенным фальклоры» Г. І. Цітовіч быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Ён аўтар некалькіх зборнікаў песень, многіх апрацовак, якія трывала ўвайшлі ў рэпертуар прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў.

На працягу ўсяго свайго творчага жыцця Г. І. Цітовіч удзяляў вялікую ўвагу самадзейным харавым калектывам.

Партыя і Савецкі ўрад высока ацанілі заслугі Г. І. Цітовіча, узнагародзіўшы яго трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам Дружбы народаў і медалямі.

Светлы вобраз Генадзя Іванавіча Цітовіча — выдатнага музычнага дзеяча, добрага і чулага чалавека — назаўсёды застанецца ў памяці народнай.

**М. М. СЛЮНЬКОЎ, Г. С. ТАРАЗЕВІЧ, М. В. КАВАЛЁЎ, Г. Г. БАРТАШЭВІЧ, В. Г. БАЛУЕЎ, У. І. БОРЫС, М. І. ДЗЕМЯНЦЕЙ, У. Г. ЕЎТУХ, Ю. Б. КОЛАКАЛАЎ, А. Т. КУЗЬМІН, М. І. ЛАГІР, У. А. ЛЯПЁШКІН, А. А. МАЛАФЕЕЎ, М. Н. ПОЛАЗАЎ, Ю. М. ХУСАІНАЎ, У. М. ШУРАЛЁЎ, В. В. ГУРЫН, Н. М. МАЗАЙ, І. І. АНТАНОВІЧ, Ю. М. МІХНЕВІЧ, В. Л. ПЯЧЭННІКАЎ, У. Ї. МІХАСЁЎ, М. ТАНК (Я. І. СКУРКО), У. Ц. ГАРДЗЕЕНКА, М. М. ЯРОМЕНКА, І. М. ЛУЧАНОК, В. А. НІКІФАРАЎ, Я. А. ВАШЧАК, Я. А. ГЛЕБАЎ, С. П. ДАНІЛЮК, В. М. ЕЛІЗАР'ЕЎ, А. М. САЎЧАНКА, А. В. БАГАТЫРОЎ, У. У. АЛОЎНІКАЎ, Ю. У. СЕМЯНЯКА, М. П. ДРЫНЕЎСКІ.**

## БЫЎ ЁН З КАГОРТЫ САМААДДАНЫХ

Няма Генадзя Іванавіча. Не стала чалавека, які так любіў жыццё, любіў людзей. Людзі адказвалі яму ўзаемнасцю... Не знойдзеш ніводнага куточка на Беларусі, дзе б не ведалі яго, не чакалі, як самага дарагога і жаданага госця. Яго разумелі ўсе, незалежна ад узросту. Ён умеў весці захапляючую размову і з дзецьмі, і са старэйшымі. Усе людзі былі для яго цікавымі, бо ён іх любіў.

Чалавек, улюбёны ў беларускую народную песню, Генадзь Іванавіч шмат зрабіў для таго, каб наша «сяляначка» выйшла на прафесійную сцэну. Самаддана, усім сваім шчырым і добрым сэрцам любіў ён песню — душу народную...

Генадзь Іванавіч быў заўсёды ў працы. Многа пісаў: ці то рэцэнзію-водгук на работу навукоўца, ці то артыкул пра самадзейных артыстаў або харавы калектыў... Ён удзельнічаў у журы многіх конкурсаў, у рабоце мастацкіх саветаў. Заўсёды сціплы, інтэлігентны, быў патрабавальны ў справах.

Цяжка, вельмі цяжка родным, калі адыходзіць блізкі чалавек. Цяжка сябрам, якія многа год ішлі поруч. Цяжка ўсім, хто ведаў Генадзя Іванавіча... Такія людзі нараджаюцца не часта. Арганізатар і кіраўнік Дзяржаўнага народнага хору БССР, ён шмат зрабіў для станаўлення гэтага цудоўнага, цяпер акадэмічнага калектыву. Сапраўды народны артыст Савецкага Саюза, колькі зрабіў Генадзь Іванавіч для прапаганды і далейшага развіцця нашай роднай культуры! І ўдзячны беларускі народ назаўсёды захавае ў памяці светлы вобраз чалавека, грамадзяніна, самааддана працаўніка песеннай нівы — незабыўнага Генадзя Іванавіча Цітовіча.

**Юрый СЕМЯНЯКА,**
**народны артыст БССР.**

## ЗАСТАНЕЦЦА З НАМІ НАЗАЎЖДЫ

Цяжка перадаць словамі тое, што перажываем зараз мы, сябры, творчыя паплечнікі, гадаванцы Генадзя Іванавіча. Называлі мы яго бацькам хору. Ды асірацеў наш хор...

Для мяне гэта вельмі вялікая асабістая страта, страта чалавека, які ў літаральным сэнсе вызначыў мой лёс. Амаль 20 гадоў назад гэта было. У канцэрце з удзелам выпускнікоў кансерваторыі Генадзь Іванавіч упершыню ўбачыў мяне і прапанаваў працаваць разам з ім. Пра народны хор на той час я і не думаў, бо адукацыю атрымаў як хормайстар акадэмічнага калектыву. І вось прыйшоў да Цітовіча. Пяць гадоў працаваў поруч з ім хормайстрам, і нават калі Генадзь Іванавіч, даверыўшы мне сваю справу, пайшоў на пенсію, нічога былым не змянілася. Гэта рэдкі выпадак у артыстычным асяроддзі, але паміж намі былі па-сапраўднаму глыбокая чалавечая прыязнасць, дружба, творчае ўзаемаразуменне. «Для вас мае дзверы ніколі не зачынены, турбуйце ў любую пору сутак»,— паўтараў Генадзь Іванавіч. І сапраўды, дзяліў з намі ўсе нашы рабочыя і жыццёвыя клопаты. Прыходзіў на рэпетыцыі, часта званіў, памагаў прафесійнымі кансультацыямі і меў мудрую параду на любы выпадак.

Незвычайны быў чалавек! Рознабаковы і каларытны як асоба, багата адораная індывідуальнасць, высакародная, шырокая натура. Ветэраны хору, канечне, памятаюць гастрольныя вандроўкі — па самых далёкіх маршрутах. Які нястомны і непатрабавальны быў Генадзь Іванавіч у дарозе! Які энергічны і жыццярадасны, жыццялюбівы быў ён — у самых, здавалася б, «некамфартабельных» і стамляючых вандроўных умовах! Вакол яго нібы панавала атмасфера свята, добрага гумару і фантазіі, усіх ён умеў надзяліць радасным настроем.

Велікадушны, таварыскі чалавек, ён лёгка сыходзіўся з людзьмі, ніколі не скупіўся на зычлівае слова, на падтрымку і ўхвалу. А калі зайздросціў каму, дык адкрыта, неяк па-добраму: маўляў, вось які ты малайчына, я так зрабіць бы не змог... І сяброў у яго было шмат. Адчуваў я гэта ў нашых сумесных фальклорных экспедыцыях: здаецца, усе Цітовіча ведалі, помнілі яго ныя прымаўкі-жарты... Дый, і ў апошнія дні Генадзь Іванавіч, ведаючы пра сваю невылечную хваробу, не губляў пачуцця гумару і духоўную сілу. Нудзіўся без працы. Асабліва часта гаварыў, што хацеў бы выдаць зборнік прымавак і прыказак, якіх за жыццё назбіралася ў яго багата, і назваць той зборнік «Усмешкі». Гаварыў: «Каб людзі пасмяяліся». Любіў ён, калі людзі хораша смяюцца, калі вакол весела.

Добра жылі мы, адчуваючы надзейную апору — вопыт, важкі розум, прафесійную ўпэўненасць нашага слыннага бацькі. Аўтарытэтнае слова Генадзя Іванавіча заўсёды было меркай нашага жыцця ў мастацтве. Хутка мы адчуем, як будзе бракаваць гэтага слова, Цітовічавых ведаў, меркаванняў, крытэрыяў...

Нам засталіся яго традыцыі і яго запавет: шанаваць, берагчы беларускую песню. Нам засталася яго творчая спадчына — песні, якія запісваў і апрацоўваў сам Генадзь Іванавіч. «Рэчанька», «Ой, рана на Івана», «Жаваранічкі, прыляціце»... Яны сёння ў нашым рэпертуары. Яны будуць гучаць заўжды.

**Міхась ДРЫНЕЎСКІ,**
**мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі.**

## ПЕСНЯ ПАМЯЦІ

Балюча майму сэрцу.
Горка.
Цесна.
Сляза кранула цішыню
зямлі —
Генадзь Іванавіч...
Асірацела песня:
Вы,
Нібы бацька,
Для яе былі.

Яе Вы,
Як дачок любімых,
Знալі,
Амаль адзіны, секлі
гром-дубоў,
Што на гітарах
Спрытна распінàлі
Душу народа —
Вашую любоў.

Не мітусіліся
І не пылілі —
Па росах басанож
Прайшлі не раз.
Вы так зямельку родную
любілі,
Хай знойдзецца
Такі яшчэ
Між нас!

У кожнага
У сэрцы пабывалі —
Хто пеў красу
І хто яе бярог,
Маўкліва,
Нібы бог,
Пацалавалі,
Прысеўшы на зарошаны парог.

Не раз маланкі
Білі ў Вашы крылы,
Ды Вашай долі
Млечны Шлях гарыць!
За Вас заўсёды
Песня гаварыла
І будзе вечна
Вамі
Гаварыць...

**Уладзімір КАРЫЗНА.**

**Саюз пісьменнікаў БССР глыбока смуткуе з прычыны смерці вядомага музычнага дзеяча, нястомнага прапагандыста беларускай народнай песні народнага артыста СССР ЦІТОВІЧА Генадзя Іванавіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры глыбока смуткуе з нагоды смерці нязменнага члена камітэта, вядомага этнографа, музыказнаўцы і харавога дырыжора, народнага артыста СССР Генадзя Іванавіча ЦІТОВІЧА і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**

**Праўленне, партыйная арганізацыя і Падлескі народны хор калгаса імя У. І. Леніна Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці глыбока смуткуюць у сувязі са смерцю ганаровага калгасніка, арганізатара і першага кіраўніка хору, народнага артыста СССР Генадзя Іванавіча ЦІТОВІЧА і выказваюць спачуванне сям'і памёршага.**

## ПАЭЗІЯ

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ



### Свята пірага

Пірог спякла, ды ўспомніла шайморы,
Бяздомнасці сівыя палыны...
Ты плачаш, мама? (Год ідзе каторы,
Каторы час ідзе пасля вайны!)

Ты ўся гарыш, нібы пасля застуды,
Як за акном — пякуча-алы мак.
Мне страшна так, што я бягу да студні,—
Вядро ж
не набіраецца ніяк!

Нясу, нарэшце, менш чым паўвядзерца —
Вада, чамусьці, плешча цераз край!
Маёй журбы сярэбранае сэрца,
Ты пачакай. Я хутка. Пачакай!

Пагодны май і светлыні даволі.
Святочны май. І свята пірагоў.
Ды ўбачу, як расце ячмэнь на полі
Наш горкі хлеб. І горкая любоў.

### Пытаюся

Зразумець, як між вякамі,
Між усмешкай і слязьмі:
Згода ёсць паміж ваўкамі
І радзей — паміж людзьмі.

Крылы так распраў, як птушка,
І ляці, абраўшы шлях...
Ды мясцюрыцца ў падушках
І у крэслах мяккіх — страх.

Сам сябе ў няроўнай бойцы
Ад пачвар адгарадзі!
Страх ахвяры. І забойцы.
Адваката. І суддзі.

Перамнож на страты вопыт,
На сасонку над грудком...
Ды — пытаюся. Я — допыт
Над сабой. І над радком!

### 20. VI. 1985 г.

Аляксею ДУДАРАВУ

Спакойнага дня сонцалікі ірдзень.
Цяпла напіліся таполі.
А ў свеце, дзе столькі балючых падзей,
Жывём, як на атамным полі.

Нямала прайшло лікаванняў і кроз.
Шумяць цёмналістыя кроны.
Мне светла і горасна так, што наскрозь
Ты бачыш мяне, аддалёны.

Ад шкла ветравога пагляд адыму
І вочы успыхнуць, як неба.
Шчаслівы? Вядома табе аднаму,
А болей — нікому не трэба.

Я знаю, што родныя мы па жальбе,
Па зорцы, што мкне з абеліска.
Мы едзем, і пальцы дрыжаць у цябе
На чорным пластмасавым дыску.

Мінём крутаяр, а журбы не мінём.
Дзе шлях ячмэнь выткан раднейшы?
Мы едзем лагодным раскрыленым днём
За дзень да вайны ў 41-ым.

### Верш, напісаны ў цырульні

Шчэ ні агонь, ні скруха не лякае,
Але чаму схіліўшыся ніжэй,
Цырульнік вас трывожнымі рукамі
Бязбожна так і клопатна стрыжэ?

Маёй вясны далёкай адгалоскі...
І я ужо сачу праз ціхі боль,
Як ападаюць пышныя прычоскі —
Русявыя. І чорныя, што смоль.

Таму шапчу услед на голас звонкі,
На смех ваш безаглядна-малады:
Радзімыя, шчымлівыя жаўронкі,
Дай бог сустрэць мне вас праз два гады!

Шчаслівае дарогі вам і пошты,
Хай вас цяпло радзімы саграе.
...Ад першай кулі гінуць. Ад апошняй.
Не па-мі-рай-це!.. хлопчыкі мае.

### Іранічны - артыстычны

Калі на сэрцы забаліць —
Стрымай, каб спавядацца.
Час надышоў, як гаварыць,
Пра што — пытацца.

Не упадзі, не аслабей
Праз снег — уцэла.
А слова, нібы верабей!
Кажы — з прыцэлам.

Таму, хто ліпкі лье ялей,
Хоць крыкнуць закарцела,—
Не запярэч, не асмялей,
А ўтор — з прыцэлам.

Даўно слязіне з-пад павек
Не верыць сцэна.
Рэкламны свет і чалавек,
Пішы — з прыцэлам...

Паміж чужых і сваякоў,
З любой трыбуны —
Ты будзеш доўга жыў-здароў,
Мой аўтар юны!

### Элегія гарадскога дома

Ці замнога адчаю і болю,
Ці зглынуў нас уедлівы быт...
Шыфаньерамі, кнігамі, моллю
Гэты дом да астатку набіт.

Тут па лесвіцы крочаць, бы ўпотай
Хто — з балонкай, хто — з чорным катом.
Тэлевізіяй, спешкай, самотай
Да астатку заселены дом.

Праўда, скінецца дружна і разам
На пакойнага
люд па рублю.
І засведчыць сцяна безадказна
Нажавою зарукай «люблю».

## ПРОЗА



Барыс САЧАНКА

# Маргарыта Мікалаеўна Хлопчык

*АПАВЯДАННЕ*

ПРА ЯЕ хадзілі ў горадзе розныя, самыя супярэчлівыя размовы. Асабліва — як паводзіла сябе ў часе вайны — у нямецка-фашысцкую акупацыю.

— О, якая мужная, смелая і знаходлівая гэта была падпольшчыца!— выказвалі захапленне адны. — Не шкадавала нічога дзеля перамогі, кожны дзень, кожную хвіліну рызыкавала жыццём. Каб не такія, як яна, няхутка б мы прагналі са сваёй зямлі немцаў...

— Цьфу, брыдота,— пляваліся другія. — Як такую зямля носіць? І выкруцілася ж, не пасадзілі. Хай бы згніла, як іншыя, у турме...

І калі хто-небудзь спрабаваў абараніць жанчыну, не даць налюдна ганьбіць, на яго накідваліся, быццам звяры, з усіх бакоў:

— Не ведаеш, дык маўчы. Бо я... Сама, сама, на свае вочы бачыла. З немцамі, афіцар'ём, гадаўка, гуляла. І калі аднаго з іх, самага каханага, партызаны забілі, дык яна... Цьфу, аж успамінаць не хочацца. На дамавіну ўпала, рукамі, быццам жывога, абхапіла і галасіла, крычала, бы вар'ятка, на ўсе могілкі... Ледзь адвалаклі... А ты...

І, пагардліва акінуўшы вачамі абаронцу, адварочваліся, адыходзілі, аж кулакі сціскалі ад гневу і злосці...

Выпала так, што мне давялося пазнаёміцца з гэтай жанчынай. А потым і даволі блізка сысціся, стаць адным з тых нешматлікіх людзей, хто бываў у яе дома, сядзеў за філіжанкаю кавы, слухаў — і неаднойчы — яе ўспаміны пра мінулае, у тым ліку і пра жыццё, барацьбу падпольшчыкаў у акупацыю. Але раскажу пра ўсё падрабязна. Мы, вучні дзевятага класа, на чале з нашым настаўнікам, выкладчыкам гісторыі, надумалі стварыць краязнаўчы музей. Вядома, адно з галоўных месцаў у музеі павінны былі заняць матэрыялы, так ці інакш звязаныя з Айчыннай вайной. Камандзір партызанскага атрада, што дзейнічаў у нашай мясцовасці, жыў на Украіне, пад Кіевам. І калі мы звярнуліся да яго з лістом, ён параіў звязацца з Маргарытай Мікалаеўнай Хлопчык. «Яна ведае на багата больш усяго і лепш за мяне, — пісаў былы камандзір партызанскага атрада. — Папершае, яна мясцовая, па-другое, амаль усю акупацыю была ў горадзе, ні на дзень не пакідала яго...»

Калі мы, вучні, пачалі высвятляць, хто такая Маргарыта Мікалаеўна Хлопчык, дык выявілася: гэта і ёсць тая жанчына, пра якую хадзілі ў нашым горадзе розныя, самыя супярэчлівыя размовы. Яшчэ раз напісалі былому камандзіру партызанскага атрада. Але ён рассеяў усякія нашы сумненні, запэўніў, што жанчыне гэтай — Маргарыце Мікалаеўне — можна верыць, як сабе. «У самыя цяжкія хвіліны яна выручала нас, рабіла ўсё, што было ў сілах, дзеля Перамогі. Гэта адна з самых непахісных гераінь вайны, чалавек рэдкай сумленнасці і мужнасці. А тое, што пра яе ходзяць розныя плёткі — не надавайце ім значэння. Больш таго, пастарайцеся іх развеяць, каб перамагла праўда. Калі не верыце мне, звярніцеся да дакументаў. І тых, што мы здалі ў архіў адразу ж пасля вызвалення, і іншых, якія, вядома ж, захаваліся. Але, паўтараю: Маргарыта Мікалаеўна — крыштальна чысты, сумленны чалавек, сапраўдная гераіня вайны.Такімі людзьмі трэба ганарыцца, браць з іх прыклад...».

Не верыць камандзіру партызанскага атрада... Ды яшчэ, калі ён спасылаецца на дакументы, якія здаў у архіў адразу ж пасля вызвалення... І я, спярша з вучнямі-аднакласнікамі, а потым усё часцей і часцей і адзін, пачаў заходзіць да Маргарыты Мікалаеўны. Жыла яна непадалёку ад нашай школы, у старым цагляным доме, які неяк ацалеў у вайну, займала невялікі, з густам абсталяваны пакойчык у агульнай, з доўгім, амаль бясконцым, калідорам, кватэры. Жыла адна — ні дзяцей, ні мужа ў Маргарыты Мікалаеўны не было. Не было, як сама яна прызналася, у яе нікога і з родзічаў: усе — бацька, маці, дзве сястры і брат — загінулі, калі нямецкія карнікі палілі вёску, дзе яны жылі і дзе нарадзілася сама Маргарыта Мікалаеўна.

— І здарылася гэта на другі год акупацыі, увосень,— расказвала Маргарыта Мікалаеўна. — Карнікі некуды ехалі і спыніліся перапачаваць. На іх і напалі партызаны... Бой быў жорсткі, адчайны. Семдзесят шэсць карнікаў загінула ў тым баі. Былі, вядома, ахвяры і сярод партызан, вяскоўцаў... Але якія — мала хто ведае, бо як толькі партызаны адступілі, немцы акружылі вёску і ўсіх да аднаго жыхароў знішчылі. Каго застрэлілі, каго спалілі... І раней я ненавідзела пршэльцаў. Можаце ўявіць, як зненавідзела я іх пасля ўсяго таго, што здарылася, што зрабілі яны з маімі бацькам, маці, сёстрамі, братам, іншымі людзьмі, самой нашай вёскай...

Тая даверлівасць, амаль інтым, якія ўсталяваліся ў нашых адносінах, калі мы, вучні дзевятага класа, упершыню пераступілі парог гэтай кватэры, захоўваліся і далей, калі я прыходзіў да Маргарыты Мікалаеўны — і будучы студэнтам, і потым, закончыўшы вучобу. Адзінота, ды і хвароба, якая амаль не дазваляла Маргарыце Мікалаеўне паказвацца на людзі, па ўсёй верагоднасці, давалі пра сябе знаць, і жанчына рада была кожнаму чалавеку, хто наведваўся да яе. І асабліва — маладым, хто многага не ведаў, і яна, былая падпольшчыца, магла расказаць, зацікавіць тым, чым жыла сама. А жыла яна, як неўзабаве я пераканаўся, вайною. Надта ж жорстка абышлася яна, праклятая, з Маргарытай Мікалаеўнай, праехалася бязлітаснымі сталёвымі коламі, пакарала, як рэдка каго. Мала, што бацьку, маці, дзвюх меншых сясцёр і брата забрала, скалечыла яе самую, дык яшчэ... Эх, была, была крыўда ў Маргарыты Мікалаеўны на многае і многіх, а найперш — на сваіх жа людзей, тых, хто жыў разам, побач з ёю у адным горадзе.

— Не дзеля каго ж я ўсё, што магла, рабіла, а дзеля іх. Каб шчаслівыя былі яны, гора не ведалі. І каб зямлю нашу, бацькаўшчыну ворагакупант не таптаў. І мяне... Не зразумелі. Многія-многія не зразумелі, — з крыўдай у голасе гаварыла, прызнавалася Маргарыта Мікалаеўна. — Ды каб жа толькі не зразумелі! А то ж... Быццам нават помсціць пачалі. Брыдкія, злосныя плёткі пра мяне некаторыя распускаюць. Відаць, у сім-тым я і сама вінавата, трэба было быць больш абачлівай, больш думаць пра сябе... А я... Ні пра што іншае тады не думала... Ворагу больш бы нашкодзіць, прагнаць хутчэй з нашай зямлі, адпомсціць за слёзы і кроў... Ды і думаць асабліва не было калі, трэба было дзейнічаць. Кожная нерашучасць, марудлівасць, замінка маглі прывесці да правалу, смерці соцень людзей... Ды дзе соцень—тысяч! І адна, адна я сярод ворагаў была. Ні параіцца з кім, ні расказаць, што на душы. І лёс не толькі мой, а многіх вырашаўся, як бач, у адну хвіліну. Слова не тое ці дзеянне — крок адзін! — і ўсё... Ух, і цяпер як успомню — дрыжыкі бяруць!..

Маргарыта Мікалаеўна і сапраўды сцінался, калацілася ўся — і непрытворна — так ахапляў, спавіваў яе жах, страх.

— Дзіўна, але тады ні жаху, ні страху не было. Быў нейкі халодны, дакладны разлік. І ніякай нерашучасці, разгубленасці. Быццам прадумана ўсё да канца было. Прычым — на розныя выпадкі жыцця. Так, і толькі так. Дрыжыкі пачыналіся пасля, калі самае страшнае і жахлівае аставалася ззаду. Іншы раз аж ванітавала. Ці то ад перажыванняў, напружання, ці то так ад чаго. Апаноўваў, ні на чым не

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БССР

# У АБАРОНУ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

Чалавек і памяць... Яны нараджаюцца разам, адначасова, і ці не самае галоўнае — убачыць. Убачыць, як час і д з е і ты ўрастаеш у яго. Урастаеш — і ўздымаешся. Не ўгару, не над іншымі, а з сябе, з сябе ўчарашняга вырастаеш — са зробленага, з перадуманага, з перажытага. З балюча перажытага. Табой і іншымі... Народам! Глыбіня гэтага адчування, мажліва, і вызначае глыбіню спасціжэння жыцця, спасціжэння свайго часу. «Свайго» — не агаворка, бо час не можа быць «не сваім». Ён — такі, на які прыпала тваё жыццё. Вельмі канкрэтны. Вельмі асязальны. Да самай дробнай дэталі асязальны, пазнавальны. Ты — ва ўладзе часу. Нават калі ты мастак. Яшчэ ў большай ступені, калі ты — мастак...

**Сцісла, «эскізна» перадаю тэму размовы, якая заняла не адну гадзіну то ў невялічкай майстэрні, то ў выставачнай зале Палаца мастацтваў, то ў аўдыторыі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, прафесарам і прарэктарам якога ён з'яўляецца, — размовы з вядомым графікам, заслужаным дзеячам мастацтваў БССР Васілём Шаранговічам. Адну з тэм, бо гаварылася і пра шмат іншае (знаёмы ж мы і сочым за творчасцю адно аднаго ўжо шмат гадоў) — звязанае і не звязанае напрамую з мастацтвам. Гаварылася горача, страсна, зацікаўлена, з разуменнем неабходнасці хутчэйшага і больш плённага развіцця нацыянальнай культуры. Гаварылася і пра спадзяванні, і пра сумненні, і пра горкія, часам, расчараванні. Незадаволенасці было больш, чым захаплення, спрэчнага выяўлення больш, чым рэальна даказанага. Як, дарэчы, і ў кожнай зацікаўленай гаворцы. І ўсё сказанае, усё спрэчнае і бясспрэчнае пацвярджала старую ісціну: мастак не мае права быць па-за сваім часам — тады яго папросту няма, ёсць чалавек, які штосьці робіць і выдае зробленае за мастацкі твор.**

Свой час, наш час. Дваццатае стагоддзе са столькімі самымі рознахарактарнымі — то жорсткімі, то жыццесцвярджальнымі — эпітэтамі... Сёлетні год — Міжнародны год міру... Сувязь — праз чалавека. Праз кожнага чалавека. Васіль Шаранговіч гэта ведае. Здаецца, уведаў яшчэ змалку: не дарэмна ж тая, ледзь не падсвядомая памяць так уладна ўрываецца ўвесь час у яго творы — малюнкі-ідэі, малюнкі-думкі, шмат разоў прапушчаныя ва ўяўленні праз пачуццё і ім, пачуццём, высветленыя, выграненыя, кладуцца ў аснову кожнай яго работы, кожнага графічнага аркуша. Кожнага! — хоць сёння гаворка ідзе пра дзевяць з іх, тыя дзевяць аркушаў, якія склалі графічны цыкл «Памяці вогненных вёсак».

Памяці вогненных вёсак... Так мог бы называцца рэквіем. Ды гэта і ёсць рэквіем людской мужнасці, людской стойкасці ў гады Вялікай Айчыннай, увасоблены мастаком строгімі, нават скупымі, сродкамі графікі. Магутны, вогненны згустак рэальнай гісторыі — сам час той паўстае ва ўсёй сваёй сіле, і, быццам засланяючы, больш таго — адпрэчваючы імклівую хаду страшных, жахлівых у сваёй бязлітаснасці падзей, змушае задумацца, змушае ўсвядоміць, за што пакутавалі і гінулі людзі, за што яны аддавалі жыццё. Гэтае «за што» — вельмі важнае, калі не галоўнае ў разуменні задумы Васіля Шаранговіча (тут можна гаварыць шырэй — пра канцэпцыю ўсёй творчасці графіка, але абмяжуемся пакуль што канкрэтнай работай). Задумы, якую нельга было ўвасобіць у адным аркушы, якой цесна нават у рамках графічнага цыкла, настолькі яна аб'ёмная, ёмістая, настолькі вызначальная ў заўсёдным яго пошуку вялікіх сацыяльных абагульненняў.

**Так, за ўсе тысячагоддзі сваёй гісторыі чалавецтва не ведала гэткіх маштабаў разбурэння, гэткіх шматлікіх ахвяр і невымерных пакут, як у гады другой сусветнай вайны: безвыходна трагічныя вобразы яе не сатруцца ў памяці многіх і многіх пакаленняў. І не маглі абмінуць, не абмінулі яе ў сваёй творчасці мастакі. Можна назваць дзесяткі імёнаў тых (і сярод іх сусветна вядомыя — Мазерэль, Кольвіц), хто выявіў яе драматызм і няўмольную жорсткасць у неверагодных, здаецца, па сіле экспрэсіі гравюрах. Усю лавіну чалавечага гора імкнуліся яны ўмясціць у іх, часта не паказваючы (не разумеючы?) прыроду вайны, часта не спрабуючы (не бачачы ў тым сваёй задачы?) праз увесь жах, праз увесь трагізм падзей перадаць спрадвечную каштоўнасць чалавечага жыцця, веліч чалавека нават у бесчалавечных умовах вайны. «Маёй мэтай было праўдзіва паказаць жах гэтых падзей. Я хацеў паказаць іх іншым людзям з надзеяй, што яны зробяць высновы і калі-небудзь агульнымі намаганнямі перамогуць у барацьбе за мір»,— пісаў Мазерэль. І нельга сказаць, што гэта малая, не вартая вялікага мастака мэта. І ўсё ж...**

Мажліва, гэта глыбока асабістае, але ўсё ж, на маю думку, мастацкі твор — не проста дакумент, не проста сведчанне часу, падзеі, гістарычнага моманту, якой бы важнай ні ўяўлялася гэта мэта. Прынцыпы высокага гуманізму і грамадзянскасці вымагаюць ад мастака пошуку вышэйшага — пошуку вышыні, на якой чалавек убачыць сябе ва ўсёй сваёй духоўнай сіле і велічы (а што ўласцівы яму гэтыя духоўная сіла і веліч, самім ходам гісторыі даказана!). Гэта — задача непамерна большая, непамерна больш патрэбная на фоне стагоддзяў, былых і новых. Без веры ў тое, што дарогі вайны, дарогі пакут, дарогі адчаю і дарогі барацьбы зліваюцца — сальюцца! — у шырокі шлях, які прывядзе да перамогі міру і братэрства ўсіх людзей, жыццё траціць сэнс, гісторыя траціць перспектыву.

Гэту веру павінна сцвярджаць — і праз найбольш таленавітыя творцаў сцвярджае — мастацтва. І колькі б мы ні захапляліся ў кожным выпадку асобнымі творчымі ўдачамі і ўдала знойдзенымі вобразамі, колькі б ні пляскалі ў ладкі, вітаючы відочнае прафесійнае ўмельства ці ўяўную вернасць традыцыям, пра адметнасць мастака, пра мастакоўскі талент і яго сапраўднасць, значнасць сведчыць найперш вышыня яго адказнасці, глыбіня яго маральнага пошуку.

Графічны цыкл Васіля Шаранговіча «Памяці вогненных вёсак» — з'ява ў мастацтве рэспублікі неардынарная, з'ява вельмі прыкметная. І не толькі тэмай,— зусім не тэмай — традыцыйнай для беларускага мастацтва. Магутным сюжэтным стрыжнем цыкла з'яўляюцца як уласныя перажыванні, перакананні мастака, так і яго роздум, яго актыўна жыццесцвярджальная жыццёвая пазіцыя. Народ выстаяў (і ў гэткую навалу выстаяў),— вось змест работы, вось той лейтматыў, на якім будуецца твор. Цыкл з дзевяці графічных аркушаў успрымаецца цэласным аповядам, у якім асобныя фрагменты знітаваны адзін з адным у строгай паслядоўнасці, хоць кожны ўспрымаецца не толькі ў сувязі з іншымі, але і як завершанае мастацкае цэлае. Гэта вызначыла і будову твора, і яго мову — тыя выяўленчыя сродкі, якімі карыстаецца графік. Малюнкі-думкі, малюнкі-ідэі стылёва вырашаны ў адным ключы: няяркія зближаныя таны, якія раптам дзе-ні-дзе «выбухаюць» магутнымі акордамі колеру, то прыцішанага, то гучнага, не столькі пазначаюць тэхніку (каляровая аўталітаграфія), колькі дыферэнцыруюць сэнсавае значэнне, сэнсавае гучанне аркушаў, кожны раз сваё, асаблівае.

**«Партызанскі каваль», «На папялішчы», «Хатынскае полымя», «Памяць», «Абпаленае дзяцінства», «Блакадны агонь», «Мішэнь», «Мацярынская трывога», «Вяртанне» — абсалютна завершаны цыкл, хоць, здавалася б, яго можна было доўжыць, пашыраць, насычаць усё новымі фарбамі. Завершанасць**

---

# Маргарыта Мікалаеўна ХЛОПЧЫК

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).**

кам тым, якога я ненавідзела і якога сама застрэліла... Значыцца, падумаў, як і іншыя, што сапраўды я закахалася ў Эрыха, жыць без яго не магла...

— Трэба было вам нешта зрабіць, каб спыніць гэтыя размовы і плёткі, каб ведалі, усе ведалі, хто вы такая, як і што з немцам, афіцэрам тым, у вас было, — сказаў, параіў я.

— Хм, — ухмыльнулася Маргарыта Мікалаеўна. — Лёгка сказаць... А зрабіць... Што можна ў маіх умовах, у маім становішчы зрабіць? Дый... — махнула яна, нарэшце, рашуча рукою. — Спярша мяне гэта непакоіла, злавала. Ну а потым... Прывыкла. Галоўнае, перад самім сабою быць чыстым, ні ў чым не вінаватым. А ўсё астатняе... Гаварыце, думайце, што каму хочацца...

— Але ж гэта...

— Разумею. Толькі ж і я... Гордая. Што каму даказваць? Сведак жа не было. Калі каханы, той, хто мяне больш за ўсіх ведаў, дзеля каго адна-го берагла сябе, чакала, як бога, і той... Плёткам паверыў...

І не ўтрымалася — усхліпнула, заплакала Маргарыта Мікалаеўна.

— Можа, вам варта было паехаць з горада, жыць у іншым месцы, — зноў набраўся смеласці, пачаў раіць я.

— Паехаць? А куды? Ды і чаго? — падняла на мяне вочы — заплаканыя, з кропелькамі слёз на вейках Маргарыта Мікалаеўна. І тут жа, не чакаючы майго адказу, адказала сама: — Няхай едуць тыя, хто распускае плёткі. А мне... Няма чаго адсюль ехаць. Я сумленна пражыла жыццё, віны ў мяне ні перад кім няма. Дый магілы бацькі, маці, сясцёр, брата тут... Чаго ж мне ад іх уцякаць, ехаць, куды б там ні было?.. І тут неяк дажыву свой век, спадзяюся, ён у мяне будзе нядоўгі...

— Кіньце вы, — спрабаваў я адагнаць нядобрыя думкі. — Вам жыць ды жыць...

— Сябе і сваё здароўе я ведаю, — сумна паківала галавою, нявесела ўсміхнулася Маргарыта Мікалаеўна. — Дый... Э-э... Я ж... Баліць усё ў мяне... Ды і тут, — паказала яна на сэрца, — смыліць, смыліць...

...Стаю ля невысокага, зробленага з чорнага, як ноч, мармуру, помніка, што ўзвышаецца на магіле Маргарыты Мікалаеўны Хлопчык. Цяпер не адзін я, а многія ведаюць: усё, пра што гаварыла, у чым прызнавалася Маргарыта Мікалаеўна, праўда. І ў гэтым пераканалі не толькі мяне, а і іншых людзей, і былыя кіраўнікі партызанскага руху, і дакументы, што захаваліся ў архіве, — нашы, савецкія, і тыя, што былі ўзяты ў нямецкай камендатуры. Пра Маргарыту Мікалаеўну Хлопчык, яе гераічнае, самаахвярнае жыццё, змаганне з ворагам пісалі нашы газеты. На жаль, гэтых публікацый пра сябе яна не дачакалася... І разам з сумнымі думкамі тут, ля магілы, успліваюць і тыя словы, што чуў я некалі ад самой Маргарыты Мікалаеўны: «Галоўнае, перад самім сабою быць чыстым, ні ў чым не вінаватым». У іх, гэтых словах, і супакаенне, і гордасць за сябе, сваё пражытае не марна жыццё...

---

КІНО

**НАСПЕЎ час усебакова, пільна, крытычна паглядзець на беларускую кінадакументалістыку. Мастацтвазнавец А. Красінскі падзяліўся разважаннямі-трывогамі ў артыкуле «Ад кінапратаколаў — да кінапубліцыстыкі» («Звязда», 29 красавіка г. г.). Усхваляваныя нататкамі рэдактара «Летапісу» Я. Росцікава «Не хавацца ў зыбкім прытулку» быццам падтрымаў тую тэму «ЛіМ» (2 мая г. г.). Паспрабуем і мы прадоўжыць гаворку, падзяліўшыся меркаваннямі пра стужкі мінулага года.**

# «ВЫБУХОВАЕ РЭЧЫВА» ПРАБЛЕМНАСЦІ

## КІНАСТУЖКІ АБ'ЯДНАННЯ «ЛЕТАПІС»

Пачну з фільмаў «Эксперымент: праблемы і пошукі», «Формула паскарэння», «Час сеяць. Дыялогі» і «Рабочы настрой». Яны даюць магчымасць паразважаць пра некаторыя заканамернасці, тыповыя, на наш погляд, для рэспубліканскай дакументалістыкі ў цэлым. Тэматыка выбраных стужак — надзённая. І зроблены яны рэжысёрамі, чыя прафесійная рэпутацыя трывалая.

Месца дзеяння дакументальнага фільма «Эксперымент: праблемы і пошукі» (рэжысёр М. Жданоўскі, аператары А. Сіманаў, Ю. Гарулёў, В. Купрыянаў) — Мінскі камвольны камбінат. Грунтоўнасць, з якой рэжысёр і аператары назіраюць за штодзённым жыццём рабочага калектыву, вартая ўхвалення. Мы, следам за імі, углядаемся ў аблічча майстра, неаўтарытарнай, хоць і строгай начальніцы. Не абмінае камера ні перадавой работніцы, ні нядбайнай. Выказацца на экране даюць усім — ад дырэктара да ткачыхі, ад планавіка да тэхнічнага служачага. Увогуле, мінімум «машыннага фактару» і максімум чалавечага — гэтыя дабратворныя суадносіны ўлоўліваеш з першых эпізодаў фільма.

Аднак мэта стваральнікаў фільма, відаць, была больш маштабная, чым назіранне за людзьмі ў рабочых сітуацыях (хоць ведаю: такая задача таксама нялёгкая). Эксперымент у лёгкай прамысловасці накіраваны на тое, каб высветліць слабыя месцы, знайсці найбольш эфектыўныя эканамічныя рычагі, адладзіць аптымальныя арганізацыйныя формы і вытворчыя сувязі. На жаль, якраз усё гэта закранута ў фільме «по касательной». Называецца ці не дзесятак прычын, якія замінаюць нармальнай эканамічнай дзейнасці прадпрыемства. Ды не адчуваецца спроба (а мо яна не ўдалася?) даследаваць на экране або станоўчыя бакі эксперыменту, або яго праблемныя «вузлы». Ну, дапусцім, прычыны псіхалагічнага бар'еру. Атрымалася ж, што галоўнае засталося на перыферыі ўвагі дакументалістаў. І няма ў іх рабоце выніковай думкі. А яна ж проста-такі лунала ў паветры — ідэя проціборства старога, аджыўшага, і нараджэнне — у пакутах! — новых метадаў гаспадарання. Правільна сарыентаваўшыся на паказ людзей — удзельнікаў вытворчасці, аўтары стужкі ўсё ж засталіся на ўзроўні збіральнікаў фактаў, фіксатарамі назіранняў, няхай паасобку і адметных.

У навукова-папулярнай стужцы «Формула паскарэння» (рэжысёр Ю. Хашчавацкі, сцэнарый У. Капусцяна і М. Серадзенка, аператары А. Сіманаў, Я. Пчолкін) і дакументальнай стужцы «Рабочы настрой» (рэжысёр Ю. Лысятаў, сцэнарый У. Глушакова, аператар М. Сідорчанка) таксама паказаны рабочыя калек-

САМАДЗЕЙНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# «...СПЯВАЕ І РЭКТАР, І ДАЦЭНТ»

— Не магу без песні,— прызнаўся мой субяседнік.— Памятаю, нават у Ліёнскім універсітэце, дзе мне давялося працаваць гады тры, арганізаваў з французскімі студэнтамі ансамбль рускай песні. Дарэчы, ён быў даволі папулярны сярод моладзі. Пра канцэрты таго аматарскага калектыву, якім кіраваў савецкі выкладчык, шмат пісалі ў мясцовай французскай прэсе, я нават выразкі газетныя захаваў...

Так працягвалася наша гутарка з загадчыкам кафедры замежных моў Беларускага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава дацэнтам Сяргеем Галаўко. А пачыналася яна яшчэ ў канцы лютага. Менавіта тады па рэдакцыйных справах я апынулася ў новым будынку інстытута фізічнай культуры, сучасны гмах якога раскінуўся непадалёк ад зоны адпачынку Дразды. Скажу шчыра: парадавалася я за нашых майстроў фізкультуры і спорту, бо і сапраўды прыгажуня - будыніна тая не толькі зручная для заняткаў, але і па сваіх архітэктурных вартасцях дастойная слоў падзякі ў адрас мінскіх дойлідаў.

У актавай зале інстытута праходзіў святочны вечар. З-за шчыльна зачыненых дзвярэй у фае даляталі ўзмоцненыя мікрафонам словы, апладысменты. У гэты момант маю ўвагу прыцягнуў энергічны каржакаваты чалавек у элегантным шэрым касцюме, які штосьці ціха гаварыў групе мужчын, што стаялі вакол яго. Кінулася ў вочы, што касцюмы ў іх былі аднолькавыя. Відаць, канцэртная вопратка,— вырашыла я. І не памылілася.

Калі абвясцілі, што на сцэну запрашаюць народны мужчынскі вакальны ансамбль прафесарска-выкладчыцкага саставу Беларускага інстытута народнай гаспадаркі, прысутныя ў зале сустрэлі гэтае паведамленне шчодрымі воплескамі. І вось яны — у промнях юпітэраў (канцэрт здымала кінахроніка), падцягнутыя, бадзёрыя. Падалося, што нават і не хвалююцца. Кіраўнік ансамбля — гэта і быў Сяргей Галаўко — коратка расказаў пра гісторыю стварэння калектыву, прадставіў ягоных удзельнікаў. Высветлілася, што сёння ансамблю «Чырвоны гваздзік» будуць уручаны дыпломы Усесаюзнага тэлевізійнага конкурсу «Таварыш песня», заключны канцэрт якога мільёны тэлегледачоў пабачылі напярэдадні саракагадовага юбілею Перамогі. У той дзень яны спявалі «Лясную песню»... Гучала яна і на гэтым вечары ў інстытуце. Гучала хвалююча, натхнёна. Інакш і быць не магло. Не ведаю, ці так гэта, але, здаецца, не мог Георгій Захаравіч Захараў, загадчык кафедры эканомікі сельскай гаспадаркі, былы партызан-падлетак, не ўспомніць тыя «бярозы ды сосны» і «агні партызанскіх кастроў», якія на ўсё жыццё засталіся для яго святыняй. Не мог франтавік Барыс Ільіч Любчэўскі, сённяшні старшы выкладчык кафедры замежных моў, спяваючы са сваімі таварышамі «Крочылі салдаты» Г. Вагнера ці «Бярозы» М. Блантара, не прыгадаць цяжкія дарогі Венгрыі і Румыніі, па якіх ён прайшоў вызваліцелем...



Група ўдзельнікаў ансамбля ў час рэпетыцыі (за раялем — С. Галаўко).

Фота Ул. КРУКА.

Цяпер, калі мы з Сяргеем Аляксандравічам Галаўко вядзём няспешную гаворку пра творчую дзейнасць гэтага, шчыра скажу, унікальнага па сваім складзе ансамбля, зразумелая і мая цікаўнасць да таго, як ён узнік.

— І сапраўды, Сяргей Аляксандравіч, не часта сярод аматараў сустрэнеш мужчынскі вакальны ансамбль з такой адметнай культурай спеваў. Ну а калі ўлічыць, што ў ім удзельнічаюць вельмі занятыя людзі, дык і наогул здзіўляешся таму, што «Чырвоны гваздзік» па спявае ўсё: напружана працаваць у студэнцкіх аўдыторыях, пацвярджаць званне народнага, перамагаць на аглядах і конкурсах, даваць канцэрты, як вы гаварылі, у падшэфных калгасах Бярэзінскага і Чэрвеньскага раёнаў... А пасады ў кожнага з вас — не з лёгкіх: загадчыкі кафедраў, дацэнты, дэканы факультэтаў і нават рэктар...

— Так, і рэктар БДІФК Віктар Аляксеевіч Сакалоў. З намі ён спявае з першага дня стварэння калектыву. Тады ён працаваў у нашым інстытуце народнай гаспадаркі, загадваў кафедрай фізвыхавання... Памятаю, было гэта ў 1974 годзе, на парткоме інстытута мы абмяркоўвалі пытанне пра развіццё студэнцкай мастацкай самадзейнасці. Не зусім справы ладзіліся. І раптам прафесар Тарковіч гаворыць: «Спявалі ж мы калісьці, давайце і цяпер паспрабуем. Тым больш,— ён паказаў на мяне,— і музычна адукаваны спецыяліст сярод нас ёсць». А я і сапраўды скончыў у свой час музычнае вучылішча па класе вакала, працаваў у хоры Генадзя Цітовіча, потым у хоры радыё, а паралельна займаўся ў інстытуце замежных моў... І вось — першае выступленне ансамбля, у які ўваходзіла тады сем чалавек, сярод якіх былі і члены парткома. Словам, вырашылі паказаць прыклад студэнтам...

На тым першым канцэрце ансамбль яшчэ не меў сваёй назвы. Спявалі яны «Чырвоныя гваздзікі» А. Астроўскага, беларускую народную «Ці ўсе лугі пакошаны» і «Ленін заўжды з табой» С. Тулікава. Паступова С. Галаўко пашыраў рэпертуар вакальнай групы. Але «Чырвоныя гваздзікі» нязменна адкрывалі любое яе выступленне.

— Студэнты гэта заўважылі,— працягвае Сяргей Аляксандравіч,— і ўжо на калідоры можна было пачуць такую фразу: «Вунь з «Чырвонага гваздзіка» ідуць». Так гэтая назва, якую нам міжвольна далі нашы выхаванцы, засталася за намі... Цяпер у ансамблі — дваццаць адзін чалавек. Вядома, шмат давялося папрацаваць, каб стварыць пэўны рэпертуар. Спяваем мы песні савецкіх кампазітараў, сярод якіх шмат беларускіх аўтараў — Уладзімір Алоўнікаў, Юрый Семяняка, Рыгор Пукст, Генрых Вагнер. Але вельмі любім народную песню...

Асабліва многа спявае ансамбль песень у апрацоўцы Генадзя Цітовіча. І гэта зразумела. Кандыдат педагагічных навук С. Галаўко лічыць Генадзя Іванавіча сваім самым любімым настаўнікам, які адкрыў яму хараство нацыянальнага меласу, нарадзіў у душы патрэбу спяваць. І не выпадкова на сямідзесяціпяцігадовым юбілеі народнага артыста СССР, які праходзіў у Доме літаратара, гучалі «Ой, ды белыя бярозы» і «Пінская партызанская», запісаныя і апрацаваныя Г. Цітовічам... А на юбілейным вечары з нагоды васьмідзесяцігоддзя Адама Русака гучалі «Не шукай ты мяне» і «Лясная песня». І луналі пяшчотна-трапятліва ў вакальнай палітры ансамбля галасы салістаў — дацэнтаў С. Васкоўскага і У. Сянчушкіна...

Выкладчыкі не былі б выкладчыкамі, калі б не імкнуліся да пастаяннага пошуку таго, чаго не ведае шырокая аўдыторыя. У дадзеным выпадку слухацкая. І такім сюрпрызам, асабіста для мяне, стала літоўская народная песня на мове арыгінала «Сонейка ўзыходзіла». А наперадзе ў праграме —новыя «іскрынкі»: балгарская і нямецкая народныя песні.

Сёння дацэнты, загадчыкі кафедраў і рэктар самі трымаюць своеасаблівы экзамен. Ідзе Усесаюзны фестываль самадзейнай народнай творчасці. І, спадзяюся, «Чырвоны гваздзік» вытрымае яго дастойна.

Л. КРУШЫНСКАЯ.

ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# МАСТАК НА РАЗДАРОЖЖЫ

**Набліжаюцца чарговыя дыпломныя прагляды ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Хвалююцца, як некалькі гадоў назад мы, цяперашнія студэнты. Але не кожны з выпускнікоў уяўляе, якія цяжкасці чакаюць іх, акрыленых выдатнымі адзнакамі, наперадзе. Дагэтуль творчы лёс будучых мастакоў складваўся натуральна. Студыя, мастацкая школа (вучылішча), тэатральна-мастацкі інстытут... Кожны этап быў своеасаблівым адборачным турам. Тысячы адораных дзяцей пачынаюць займацца ў студыях і мастацкіх школах. У маладзёжнае аб'яднанне пры Саюзе мастакоў уступаюць, у лепшым выпадку, дзесяткі з іх. Уступленне ў Саюз мастакоў СССР — вынік станаўлення мастака.**

**Клопат пра падрыхтоўку і адбор таленавітай моладзі бярэ на сябе дзяржава. Навучэнцам школ, вучылішчаў, інстытутаў чытаюцца курсы лекцый па тэорыі і гісторыі мастацтва, грамадазнаўчых дысцыплінах, ім прадастаўляюцца зручныя майстэрні для творчай працы. Сістэма дзяржаўных экзаменаў даволі дасканалая. Як правіла, лепшыя выпускнікі (з выдатна адзначанымі дыпломнымі работамі) у хуткім часе ўступаюць у маладзёжнае аб'яднанне пры СМ БССР, і з таго часу стаяць на ўліку творчага саюза. Ёсць стымул працаваць, каб як мага лепш выявіць сябе, каб апраўдаць, нарэшце, затрачаныя дзяржавай на навучанне будучага мастака сродкі. Выпускнік (не забывайцеся, лепшы выпускнік!) атрымлівае накіраванне на асноўнае базавае прадпрыемства Саюза мастакоў БССР — мастацка-вытворчы камбінат Мастацкага фонду, які знаходзіцца ў Мінску. І вось тут пачынаюцца жыццёвыя і творчыя праблемы. МФ БССР не мае жыллёвага фонду для маладых спецыялістаў. Маладому мастаку не гарантуецца зарплата. У лепшым выпадку яму даюць творчы заказ (для апрабавання). Але ж дзе выконваць яго? Памяшканне для працы знайсці не лягчэй, чым шклянку вады ў пустыні. Выкананне заказу ў тэрмін нярэдка зрываецца, і мастак страчвае права на атрыманне новага. А калі заказ і выкананы, заробленага ганарару наўрад ці хопіць да наступнай работы. Даводзіцца шукаць працу са штомесячнай зарплатай, бо гэта і час, як кажуць, жыцейскага станаўлення; нашы назіранні пацвярджаюць, што найбольш таленавітыя з выпускнікоў, як правіла, вельмі кепска арыентуюцца ў жыццёвых лабірынтах, балюча і пакутліва рэагуюць на кожную няўдачу. Члены маладзёжнага аб'яднання рыхтуюцца да прыёму ў Саюз мастакоў. Яны павінны прадставіць спіс выставак і альбом работ, створаных у перыяд знаходжання ў маладзёжным аб'яднанні. А пра якую творчую працу можа ісці гаворка, калі няма не толькі дзе працаваць, але і жыць?**

**У «Палажэнні аб аб'яднанні маладых мастакоў і мастацтвазнаўцаў» чытаем: «Статутнай задачай Саюза мастакоў СССР з'яўляецца садзейнічанне маладым мастакам і мастацтвазнаўцам у творчай і ідэйна-выхаваўчай рабоце, падрыхтоўка найбольш таленавітых з іх, стварыўшых творы высокага ідэйнага і прафесійна-мастацкага ўзроўню, да ўступлення ў Саюз мастакоў СССР». У «Палажэнні аб камісіі Саюза мастакоў СССР па рабоце з маладымі мастакамі і мастацтвазнаўцамі» сказана: «Камісіі вядуць работу па ідэйна-творчым кіраўніцтве дзейнасцю аб'яднання, у тым ліку па арганізацыі кансультацый, аказанні творчай і матэрыяльнай дапамогі, рэкамендацыі дагавораў, накіраванні ў дамы творчасці, у творчыя і навуковыя камандзіроўкі».**

**Членаў маладзёжнага аб'яднання час ад часу анкеціруюць (у пісьмовай форме): што зрабіў, што збіраешся рабіць. Даецца «творчая дапамога» ў 75 рублёў (гэтай сумы, як мяркуецца, дастаткова, каб забяспечыць выкананне твора да вялікай выстаўкі). Але заключаць дагавор на буйны, сур'ёзны твор, не маючы майстэрні,— абсурд. Ні пра якія творчыя камандзіроўкі, саюзныя дамы творчасці няма чаго весці гаворку, таму што большасць маладых мастакоў працуе, як кажуць, «ад» і «да»...**

**Мы так падрабязна абмалявалі сітуацыю, бо самі апынуліся ў гэткім жа становішчы. І бачым, што год ад году такіх, як мы, большае.**

**А, між тым, ёсць канкрэтнае, досыць простае выйсце. Для эфектыўнага кантролю, рэальнага клопату пра папаўненне Саюза мастакоў варта стварыць эксперыментальную майстэрню для маладзёжнага аб'яднання. Гэта павінна быць памяшканне вялікай плошчы, падобнае да былых акадэмічных майстэрань (Сурганава, 42), дзе маглі б працаваць 5—8 чалавек. Маладзёжная камісія сумесна з актывам аб'яднання распрацуе прыкладны статут майстэрань. Асноўным крытэрыем для прадастаўлення месца ў майстэрні павінен быць творчы ўзровень члена маладзёжнага аб'яднання. Аплата, як і за індывідуальныя майстэрні, будзе ляжаць на мастаках. Малады мастак мог бы працаваць у майстэрні 2—3 гады (падаўжэнне тэрміну разглядалася б індывідуальна). Сакратарыят Саюза мастакоў з ліку членаў маладзёжнай камісіі вылучыў бы кіраўнікоў-кансультантаў. Раз у год варта было б праводзіць закрытую справаздачную выстаўку ў выставачнай зале СМ БССР (скончаныя працы, эскізы, малюнкі і г. д.), па выніках якой разглядалася б пытанне пра мэтазгоднасць далейшага знаходжання ў майстэрні. Для маладых мастакоў можа быць устаноўлены абавязковы ўдзел ва ўсіх тэматычных выстаўках. Такім чынам, на працягу 2—3 гадоў творчасць членаў маладзёжнага аб'яднання будзе знаходзіцца ў полі зроку СМ БССР. З другога боку, гэта рэальнае аказанне «творчай і матэрыяльнай дапамогі», дзейсны стымул для творчасці.**

**Думаецца, што сакратарыят СМ БССР, маладзёжная камісія сумесна з партыйнымі і дзяржаўнымі органамі маглі б знайсці магчымасць дапамагчы маладым мастакам. Гэта тычыцца і жыллёвых праблем. Напрыклад: хадайнічаць перад Міністэрствам культуры аб выдзяленні некаторай колькасці месцаў у інтэрнатах іх ведамства (у тым ліку і для сямейных). Можна знайсці нейкую форму супрацоўніцтва з буйнымі прадпрыемствамі, якія могуць прадаставіць месцы ў інтэрнатах.**

**Хочацца спадзявацца, што гэтыя прапановы будуць заўважаны, і будучыя выпускнікі БДТМІ атрымаюць магчымасць адразу актыўна ўключыцца ў культурнае жыццё рэспублікі. Не будуць падоўгу таптацца на раздарожжы, спадзеючыся на выпадак, а здолеюць самі крочыць наперад. Упэўнены, гэта паспрыяе стварэнню здаровай, патрабавальнай, сапраўды творчай атмасферы ў маладзёжным аб'яднанні, ды і ў самім Саюзе мастакоў.**

**С. БОЙКА,**
**У. ВІШНЕЎСКІ,**
**К. ШАРАНГОВІЧ,**
**В. ЯСЮК,**
**члены маладзёжнага аб'яднання пры Саюзе мастакоў БССР.**

# НЕАДОЛЬНАЯ ТРЫВОГА

**З сумам і неадольнай трывогай прачытаў у «ЛіМе» артыкул Уладзіслава Рубанава «Раўнадушша» (№ 22 за 30 мая 1986 г.). Хачу расказаць яшчэ аб адной такой несправядлівасці, якая здарылася ў Званецкім сельсавеце Рагачоўскага раёна.**

**У вёсцы Шапчыцы быў пастаўлены помнік воінам, што загінулі ў час пераправы праз раку Днепр. Тут па-геройску палеглі салдаты амаль цэлага батальёна, але справу сваю і свой абавязак выканалі. Былы старшыня Званецкага сельсавета (ён памёр) Уладзімір Дзмітрыевіч Зайцаў пасля вайны прыклаў шмат намаганняў, каб паставіць у цэнтры вёскі Шапчыцы помнік загінуўшым героям. З дапамогай грамадскасці гэта было зроблена. Вучні мясцовай васьмігодкі ўзялі шэфства над помнікам, адшукалі некаторых удзельнікаў бітвы за Днепр, сваякоў загінуўшых. Каля помніка заўсёды ў Дзень Перамогі праводзіліся ўрачыста-жалобныя мітынгі, тут заўсёды пунсавелі кветкі. І раптам... адбылося такое ж, аб чым піша У. Рубанаў у сваім артыкуле «Раўнадушша». Старшыня Званецкага сельсавета (падумайце—старшыня!) Мікалай Астапавіч Патапенка загадаў зруйнаваць помнік, тлумачачы гэта тым, што да Дня Перамогі будзе пастаўлены новы, быццам заказаны ў Маскве. Помнік быў разбураны. Тут цяпер ляжыць разбітая цэгла, нейкія рыштаванні, пясок, цэмент. Старшыня сельсавета М. Патапенка вінавата адводзіць вочы, калі размова ідзе пра помнік. «Будзе пастаўлены новы помнік у кастрычніку бягучага года», — кажа ён. Але людзі ўжо не вераць старшыні, бо ён страціў права на веру людзей. Кажуць, што ён атрымаў вымову за свой учынак, але і гэтаму ўжо ніхто не верыць, бо жыхарам Шапчыц ніхто нічога не растлумачыў, ніхто з імі не раіўся.**

**Мяне трывожыць, як і У. Рубанава, што такія факты могуць мець месца і ў іншых раёнах Беларусі, дзе многа помнікаў загінуўшым жыхарам, партызанам, воінам, што аддалі сваё жыццё за Радзіму, родны край, за мір на зямлі, за нашу будучыню.**

**Васіль КЛІМЯНКОЎ,**
**настаўнік.**
Вёска Шапчыцы Рагачоўскага раёна.

НАШЫ ГОСЦІ

# Імкненне да ГАРМОНІІ

**Кіеўскі дзяржаўны тэатр аперэты на гастролях ў Мінску**

Для аматараў музычна-сцэнічнага мастацтва гэта значная падзея: калектыў прыехаў з песеннай рэспублікі, з горада высокай тэатральнай культуры. Таму са шчырай добразычлівасцю і з павышанай патрабавальнасцю глядзім мы спектаклі кіяўлян.

Адразу прыкмячаеш сталую прыхільнасць кіеўскага тэатра да класічнай аперэты — зарубежнай і савецкай. З 10 прывезеных у Мінск спектакляў толькі адзін твор азначаны як гераічная музычная камедыя. І гэта добрая прыкмета, бо апошнія паўтара дзесятка гадоў класічная аперэта выцяснялася з рэпертуару музычных тэатраў.

Са словам «аперэта» ў нас асацыіруецца гарманічны сплаў напеўнай меладычнай музыкі, прыгожых спеваў, мудрагеліста-вытанчанага танца; яркасць касцюмаў і дэкарацый, дынамічнасць сцэнічнага дзеяння, хуткасць эмацыянальных пераходаў, віртуозная дасціпнасць акцёрскай ігры.

Тэатр — калектыўны мастак. І ў гэтым, як зазначаў К. Станіслаўскі, яго сіла. У «Сільве» калектыўнасць мастацтва праявілася бясспрэчна. А цудоўная рэжысёрская закваска (пастаноўшчык У. Бегма) робіць гэты спектакль непадуладным часу. Рэжысура іскрыцца арыгінальнымі, трапнымі знаходкамі, дзякуючы якім ствараецца ў спектаклі атмасфера непадробленага жыцця.

**Глядач ізноў перажывае перыпетыі даўно вядомай гісторыі спявачкі кабарэ Сільвы Варэску і маладога князя Эдвіна; ізноў услухоўваецца ў знаёмыя мелодыі ансамбляў і хораў. Партытура спектакля (дырыжор Г. Бахія) увасабляецца чыста і чотка (да слова, у некаторых спектаклях такая чысціня не захоўваецца: знікаюць тонкія нюансы, аркестр пачынае іграць неяк рублена, чвэрцямі...). На жаль, аркестр, у цэлым чулы акампаніятар, усё-такі часам заглушае салістаў. Гэта датычыцца ўсіх без выключэння спектакляў. Але тут трэба зрабіць агаворку ў апраўданне дырыжораў: не ўсе салісты маюць дастатковую палётнасць голасу, адпаведную досыць аб'ёмнай прасторы сцэны і залы мінскага тэатра. Цудоўна гучыць хор. Вынаходлівыя і дарэчныя акцёрскія «падтанцоўкі» ў многіх эпізодах, прынамсі, у квартэце ў ІІ акце (сцэна ўзаемных папрокаў Эдвіна і Боні).**

У імклівым, жывым і натуральным развіцці дзеяння «Сільвы» бясспрэчная заслуга і артыстаў. Адметны выканаўца ролі Эдвіна С. Паўлінаў. Прыемны голас, вельмі прывабная знешнасць, «станоўчая» абаяльнасць спрыяюць поспеху артыста і ў іншых работах.

Ужо ў адной толькі ролі Боні У. Касцюкоў дэманструе значны дыяпазон сваіх акцёрскіх магчымасцей. У яго прыемны голас, добрая дыкцыя; ён вельмі рухавы ў танцы (што асабліва выяўляецца ў карціне «ўрока танцаў»); ён — выразны драматычны артыст. Яго Боні — вясёлы хлопец, які любіць часам разыгрываць усіх (у тым ліку і сябе), — высакародная натура з вельмі справядлівым, чулым сэрцам. Гэта падкрэслена паслядоўнай рэжысурай. Цудоўная, напрыклад, мізансцэна ў «Арфеуме», калі Боні паведамляе пра заручыны Эдвіна і Стасі. Традыцыйна гэта іграецца проста: Боні звяртаецца са сваёй навіной да ўсіх прысутных, у тым ліку і да Сільвы. У кіяўлян зроблена інакш. Рэжысёр разводзіць персанажаў у розныя бакі сцэны, і такім чынам Боні паведамляе сумную вестку толькі для Фэры, і не яго віна, што словы Боні выпадкова пачула і Сільва.

**Да пары Боні — Касцюкову ў гэтым спектаклі і Стасі (І. Лапіна): вясёлая, какетлівая і адкрыта сардэчная.**

**А вось і пара старэйшых персанажаў: князь Лео (У. Барысенка) і княгіня Юліяна (Т. Цімошка). Княская свецкасць і гонар спалучаюцца ў героі У. Барысенкі з прастатой і натуральнасцю жывой чалавечай істоты. Цудоўна праводзіць ён сцэны з Боні і Фэры ў атэлі і асабліва бліскуча (на ўзроўні эфектнага цыркавога трука!) дыялог з Юліянай. Актрыса Т. Цімошка — Юліяна высвечвае драматычны стрыжань сваёй камедыйнай ролі. Мінулае яе гераіні — колішняй спявачкі кабарэ — «чытаецца» ў тужлівым позірку вачэй, у артыстызме кожнага жэсту і, канечне ж, у імклівым выбуховым танцы — танцы-выкліку, танцы-бунце супраць сацыяльнай фанабэрыі.**

«Сільва» ў пастаноўцы нашых гасцей — гэта свята мастацтва аперэты, і ўжо нават за адзін гэты спектакль мінчане ўдзячныя кіяўлянам. Гэтаксама як і за пастаноўкі «Лятучай мышы», «Баядэры», гераічнай камедыі «На досвітку»...

Высокая вакальная выканаўчая культура тэатра асабліва выяўляецца ў «Лятучай мышы». Тут дакладна і адпаведна з пеўчымі магчымасцямі артыстаў размеркаваны ролі: Генрыха Айзенштэйна іграе Г. Гарушка, Разалінду—В. Чамена, сапраўдныя майстры жанру аперэты. Абое маюць моцныя галасы прыемнага тэмбру. Іх цудоўныя асэнсаваныя спевы ўпрыгожваюць усе шматлікія вакальныя ансамблі гэтай аперэты. Яркія і іх партнёры: Адэль у выкананні цікавай артысткі Л. Бельскай, дырэктар турмы (Р. Пружанскі), адвакат Блінд (Э. Залізняк), граф Арлоўскі (В. Чорны) і асабліва сябра Генрыха, дырэктар тэатра Фальк (Я. Несцярчук).

**Уражанне ад спектакля трохі зніжаецца яго афармленнем (мастак В. Заслаўскі). Яно часам падаецца няўтульным для выканаўцаў і амаль знарочыста ўмоўным, штучным для глядацкага ўспрымання. Для відовішчнасці спектакля, як падалося, не хапае атмасферы шматлюднага шумнага балю-маскарада з яго мігценнем яркіх касцюмаў, рухам гасцей, пагонямі кавалераў за таямнічымі незнаёмкамі і да т. п. Затое прыемна ўражваюць многія іграўыя эпізоды (сцэна развітання, дзе Я. Несцярчук — Фальк дэманструе вясёлую пластычнасць свайго героя; з'яўленне дырэктара турмы і інш.), а таксама балет (танцавальныя карцінкі «Залётнікі», «Полька-галоп»), які стварае патрэбную атмасферу свята.**

Спектакль «Баядэра» можна назваць святам танца. Асабліва цікава пастаўлены танцы ў карціне пасольства (балетмайстар А. Сягал). Захапленне гледачоў выклікае танцавальнае завяршэнне ўсіх дуэтных сцэн Напалеона і Марыэты, калі да іх раптам далучаецца вялікі кардэбалет у ідэнтычных касцюмах, паўтараючы рухі герояў. Такая арыгінальная і маляўнічая сцэнічная гіпербала ўносіць у дзеянне агульны аптымістычны настрой.

Тэатр, можна сказаць, амаль не грашыць супраць добрага густу (выпадковым выключэннем назаву аперэту «Страсці святога Мікаэля», дзе сам змест падаецца пашлаватым). У тэатры працуюць высокапрафесійныя майстры: галоўны рэжысёр С. Смяян, галоўны балетмайстар А. Сягал, хормайстар І. Гарушка, моцная дырыжорская група. І, што надзвычай важна, у кіеўскай аперэце значныя акцёрскія сілы.

**Па праву на вядучых ролях выдатны саліст-спявак і акцёр Г. Гарушка. На сцэне ён заўсёды трымаецца з годнасцю і проста. Яго героі вылучаюцца вялікай унутранай сілай, мужнасцю і высакароднасцю. Гэта і марскі афіцэр Аверын («Севастопальскі вальс»), і Петэр Цёрэк («Марыца»), і Генрых Айзенштэйн, і цэлая «абойма» вобразаў у гераічнай камедыі «На досвітку» (тут артыст дэманструе талент пераўвасаблення).**

**Заўсёды ўражвае Т. Цімошка — актрыса яркага драматычнага таленту. Свае ролі (мадам Энно — «На досвітку», Юліяна — «Сільва», Цэцылія — «Марыца») яна выконвае бліскуча. Вельмі просты тэкст умее зрабіць шматзначным, эфектным, ажно афарыстычным. Яна добра спявае, пластычна рухаецца — сапраўдная зорка тэатра!**

**Артыст У. Барысенка ўражвае сваімі даволі шырокімі магчымасцямі пераўвасаблення (князь Лео ў «Сільве», суровы Гросмайстар — «Страсці святога Мікаэля», абаяльны вобраз тэатральнага краўца ў спектаклі «На досвітку»). Запамінаюцца работы Р. Пружанскага, які ўмее дакладным жэстам ахарактарызаваць сутнасць свайго персанажа, даносіць другі план ролі (тут і мсье Энно — «На досвітку», і дырэктар турмы Франк у «Лятучай мышы»). Вельмі пластычны, абаяльны і рознабаковы артыст Я. Несцярчук, нямала яркіх характэрных вобразаў у рэпертуары Р. Пахвалы. Добрыя патэнцыяльныя магчымасці адчуваюцца ў рабоце Л. Бельскай, Ю. Белана, Т. Гагарынай, В. Паўленкі, Э. Залізняка і некаторых іншых артыстаў. І ўсё ж нельга не сказаць, што выканаўчы ўзровень асобных салістаў невысокі.**

У пастаноўках нашых гасцей адчуваецца імкненне да гармоніі ва ўсіх сцэнічных элементах. Адданасць тэатра жанру аперэты, арыентацыі на здаровыя павевы часу ў тэатральным мастацтве — зарука няўхільнага руху калектыву да вяршынь дасканаласці.

Георгій ВАЛЧОК.

Фота Ул. КРУКА.



«Марыца». У галоўнай ролі В. Саколік.



На гастролях адбылася прэм'ера спектакля «Ноч у Венецыі».

ВІНШУЕМ

## *Уладзіміру* КУЗЬМЯНКОВУ–50



Праўленне СП БССР віншуе з юбілеем празаіка Уладзіміра Кузьмянкова, якому 27 чэрвеня спаўняецца 50 гадоў.

**«Дарагі Уладзімір Іванавіч!**

**Шчыра віншуем Вас з выпадку 50-годдзя з дня нараджэння.**

**Ваша радзіма — вёска Устаннае Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1955 годзе Вы скончылі сярэднюю школу, працавалі ў калгасе, а восенню былі прызваны ў рады Савецкай Арміі. Пасля дэмабілізацыі пачалі працаваць адказным сакратаром казлоўшчынскай раённай газеты «Сцяг перамогі». У 1958—1963 гадах вучыліся на аддзяленні журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна, пасля заканчэння якога працавалі літсупрацоўнікам, загадчыкам аддзела, адказным сакратаром рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», потым — адказным сакратаром часопіса «Политинформатор и агитатор», затым — адказным сакратаром газеты «Звязда». Многія гады Вашай працоўнай дзейнасці, як бачна, звязаны з перадавым краем ідэалагічнай работы — з друкам. Цяпер Вы — рэдактар «Настаўніцкай газеты».**

**Вы — кандыдат гістарычных навук. Член КПСС. Ваша працоўная дзейнасць адзначана медалём, Граматай і Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.**

**Сваю літаратурную працу Вы пачалі з нарысаў і навел. У 1972 годзе выдалі зборнік апавяданняў «Ішла вясна».**

**Жадаем Вам, дарагі Уладзімір Іванавіч, моцнага здароўя, асабістага шчасця, поспехаў у творчасці».**

Штотыднёвік далучаецца да гэтых цёплых слоў.

## У ІМЯ ШЧАСЦЯ ДЗЯЦЕЙ

**1986 год, як вядома, Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый аб'яўлены годам міру.**

**Па даўняй традыцыі 6-ы нумар «Вясёлкі», прысвечаны Міжнароднаму Дню абароны дзяцей, вось ужо некалькі год выпускаецца на грамадскіх пачатках, а ганарар за яго пералічваецца на рахунак Савецкага фонду міру.**

**У гэтым годзе ганарар пералічаны на рахунак Міжнароднага фонду імя Людмілы Жыўкавай. Створаны гэты фонд сем гадоў назад у Балгарыі, дзе прайшла міжнародная дзіцячая асамблея «Сцяг міру», у якой удзельнічалі дзеці многіх краін свету. Ініцыятарам гэтай сустрэчы была вядомы культурны і грамадскі дзеяч Балгарыі Людміла Жыўкава. З таго часу праз кожныя тры гады ў Сафію на свята дружбы з'язджаюцца юныя змагары за мір з усіх кантынентаў.**

**«Вясёлка» знаёміць сваіх чытачоў з творамі юных мастакоў і паэтаў Манголіі, Нікарагуа, ГДР, В'етнама, Балгарыі, ФРГ, а таксама вучняў Гудзевіцкай школы Мастоўскага раёна.**

**Пад рубрыкай «Урок думкі» друкуецца цікавы пазнаваўчы матэрыял «Музычная азбука» і прапануецца для развучвання песня А. Залётнева на словы Л. Дайнекі «Летні дождж».**

**Уладзімір Ліпскі расказвае пра жамчужыну нашага краю — возера Нарач, а В. Гарбук знаёміць са сваім новым апавяданнем «Мне купілі гадзіннік».**

**Апошнія старонкі адведзены вясёлым гульням, забавам, пацешкам.**

**Над афармленнем нумара працавалі мастакі А. Лось, І. Лобан, Т. Беразенская, В. Тарасаў, Я. Ларчанка, М. Селяшчук, Н. Грамыка.**

**А. ЛЯСНЫ.**

**СТАРОННКІ ЎСПАМІНАЎ**

# ГУЧЫЦЬ ЯГО МУЗЫКА

**Да 75-годдзя з дня нараджэння заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Д. ЛУКАСА**



З Дзмітрыем Аляксандравічам Лукасам я пазнаёміўся пяцьдзесят гадоў назад. У тое лета я неяк зайшоў у студэнцкі інтэрнат і сярод сваіх сяброў убачыў хударлявага хлопца з пышнай шавялюрай. Аказалася, што гэта абітурыент кансерваторыі. Калі ён сеў за піяніна і сыграў нешта незнаёмае, але досыць прывабнае, я пацікавіўся, які твор ён выканаў. У адказ пачуў: «Ніякі гэта не твор, а простая імправізацыя, — што прыйшло мне ў галаву». Толькі заставалася здзівіцца: настолькі тая імправізацыя была падобная на закончаны музычны твор.

Потым Дзмітрый стаў студэнтам класа кампазіцыі прафесара В. Залатарова, мы часта сустракаліся і неўзабаве пасапраўднаму пасябравалі. Я даведаўся, што нарадзіўся ён у Свянцянах у сям'і чыгуначніка, а калі бацька загінуў у час імперыялістычнай вайны, маці з сынам пераехалі ў Самарканд. Там яму давялося вывучыць узбекскую мову і займацца ва ўзбекскай школе...

Музыку Дзмітрый Лукас палюбіў з дзяцінства. Калі сям'я пераехала ў Гомель, ён спяваў у школьным хоры, наведваў рэпетыцыі і ўдзельнічаў у канцэртах самадзейнага аркестра народных інструментаў клуба імя Леніна, стаў нават салістам-балалаечнікам. А неўзабаве, па рэкамендацыі кіраўніка хору Рыгора Канстанцінавіча Пуксты, пачаў выступаць і як саліст-вакаліст. Ён марыў пра музычную адукацыю, але па прыкладзе бацькі вырашыў стаць чыгуначнікам і паступіў у чыгуначны тэхнікум, пасля заканчэння якога пайшоў усё ж у музычную школу. Потым — Гомельскі музычны тэхнікум па класах сольных спеваў (у Валянціны Васільеўны Зайцавай) і кампазіцыі (у Рыгора Канстанцінавіча Пуксты)...

Пад час заняткаў Дзмітрыя ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі я з прыемнасцю слухаў на студэнцкіх канцэртах многія вакальныя і інструментальныя творы будучага кампазітара. Даводзілася бываць і на спектаклях, да якіх ён пісаў музыку. А 21 чэрвеня 1941 года ў філармоніі адбыўся сімфанічны канцэрт выпускнікоў кансерваторыі, на якім прагучала і Першая сімфонія Лукаса.

А назаўтра пачалася вайна, і кампазітар здолеў неяк дабрацца да Сталінграда, дзе яго, як былога чыгуначніка, мабілізавалі на будаўніцтва чыгуначнай веткі, затым накіравалі ў запасны полк. Але ва ўмовах салдацкага жыцця ён не забываўся на музыку. Арганізаваў чырвонаармейскі хор, аркестр народных інструментаў, групу салістаў-спевакоў. У рэпертуары неўзабаве пачалі паяўляцца аркестравыя п'есы, лірычныя і сатырычныя песні Лукаса. Усёй душою мой сябра рваўся на фронт, і праз некаторы час быў накіраваны ў артылерыйскае вучылішча, ды праз паўгода цяжка захварэў і быў дэмабілізаваны па інваліднасці. Крыху ачуняўшы ад хваробы, ён стаў мастацкім кіраўніком ансамбля песні і танца Ваенна-ветэрынарнай акадэміі ў Самаркандзе. Потым Лукаса выклікалі ў Маскву на пасаду начальніка рэперткома Упраўлення па справах мастацтва пры Саўнаркоме Беларускай ССР. У Маскве Дзмітрый Аляксандравіч пачаў сур'ёзную працу над даўно задуманай операй «Кастусь Каліноўскі» (лібрэта М. Клімковіча).

Пасля вайны давялося нам працаваць разам на Беларускім радыё, дзе ён быў спачатку галоўным рэдактарам, а потым мастацкім кіраўніком музычнага вяшчання, а я — рэдактарам. Строгім і патрабавальным, але ў той жа час добразычлівым і лагодным кіраўніком быў ён для ўсіх нас. Даваў прыклад, як трэба працаваць над тэкставымі перадачамі: Лукасам былі напісаны цыклы «У краі блакітных азёраў», цыклы музычных радыёперадач для дзяцей «Вакальная музыка» (20 перадач) і «Сімфанічны аркестр» (15 перадач).

У апошнія гады Дзмітрый Аляксандравіч кіраваў кафедрай спеваў Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, перадаючы свой багаты вопыт і веды будучым настаўнікам літаратуры і музыкі. І амаль заўсёды, калі я заходзіў да сябра, бачыў у пакоі нямала ягоных студэнтаў. Яны літаральна засыпалі свайго настаўніка разнастайнымі пытаннямі пра музыку і заўсёды атрымлівалі вычарпальныя адказы...

Думаю, цяжка пераацаніць ролю Дзмітрыя Лукаса і ў развіцці мастацкай самадзейнасці рэспублікі. Тут і кансультацыі кампазітараў-аматараў, і апрацоўкі іхніх твораў, і дапамога самадзейным калектывам, і ўдзел у журы шматлікіх конкурсаў, аглядаў і фестываляў...

Прыгадваю створанае кампазітарам: першая беларуская радыёопера для дзяцей «Раквусач» на лібрэта М. Троіцкай па матывах вершаванай казкі Я. Коласа, буйныя сімфанічныя партытуры, цыклічныя камерна-інструментальныя творы, музыка для народных аркестраў, да спектакляў і кінафільмаў, мноства хораў, рамансаў, песень. Многія творы Дзмітрыя Лукаса часта гучаць па радыё (прынамсі, не так даўно зроблены новы запіс оперы «Кастусь Каліноўскі»), захаваліся ў рэпертуары салістаў і музычных калектываў Беларусі.

**Д. ЖУРАЎЛЁЎ,**
**музыказнавец, заслужаны дзеяч культуры БССР.**

**З РАБОЧАГА СТАЛА ПІСЬМЕННІКА**



**Іван КАПЫЛОВІЧ**




*АПАВЯДАННЕ*

1.

ЖОНКА ўключыла святло, сказала:

— Мо пара ўставаць? Восьмая гадзіна.

Ігару пачулася ў яе голасе незадаволенасць і хацелася спытаць, ці не ўсё адно ёй, *калі ён падымецца? Але* навошта зранку псаваць настрой ёй і сабе?

— Куды спяшацца? Ты маю работу знаеш... — каб не маўчаць, азваўся ён, ды ўбачыў, што дарма: Ніна не слухала, збіралася на таварную станцыю, дзе прыпынак прыгарадных аўтобусаў. Раней жонка выкладала нямецкую мову ў блізкай ад дома школе, а цяпер у вёсцы. Тлумачыла свой перабег тым, што ў горадзе, маўляў, у класах па сорак і болей дзяцей, нагрузка такая, што нервы не вытрымліваюць. А ў вёсцы класы малыя, работы менш, а зарплата адна і тая ж.

Апранаючыся, Ніна нагадвае, каб ён не забыў заплаціць за кватэру і забраў з хімчысткі яе дэмісезоннае паліто.

Сказаўшы ўсё, што хацела, Ніна шчоўкнула замком, зачыніла за сабою дзверы і дробненька затупацела па лесвіцы.

Ігар сунуў ногі ў тапачкі, падаўся ў ванную і галіўся над *трэснутай ракавінай.*

Пагаліўся, памыўся і такі свежы, чысценькі, ступае на кухню, ставіць на пліту чайнік.

П'е каву, пазірае ў акно, бачыць дрэўцы і не верыць, што, як перабраліся сюды, гэтых дрэўцаў не было. Апошняй восенню пасадзілі іх, і зараз яны ажылі, зазелянелі.

Тады ж, не паспелі, здаецца, засяліцца, як Ніну паклалі ў бальніцу. Калі яе павезлі на «хуткай», ён думаў, што паляжыць жонка тыдзень-другі і выпішацца. Аж не. Больш як месяц праляжала яна, і ўвесь той месяц ён быў сам не свой...

У першую пасля выпіскі ноч Ніне не спалася. Яна ўстала, накінула на плечы халат і зашоргала ў тэпцях на кухню, уключыла там святло, села на табурэт перад акном і глядзела перад сабой невідушчым позіркам. Была восень, на дварэ было ўжо *холадна, але* паравое ацяпленне так грэла, што ў кватэры, як у лазні.

Ігару захацелася піць, і ён падаўся ўслед за жонкай. Ніна нават не павярнула ў яго бок галаву. Ён адчыніў кухоннік, шукаў мінеральную ваду. Ні ў кухонніку, ні ў халадзільніку яе не аказалася.

— Куды яна падзелася? Учора дзве бутэлькі купіў, — спытаў ён.

— Я нічога не ведаю, ты сам тут гаспадарыў, — усё гэтак жа не гледзячы на яго, бы чужым голасам прагаварыла Ніна.

— Хутчэй бы развіднела, — сказаў ён.

— Хочацца ў майстэрню? — спытала Ніна. — У цябе, мабыць, хтосьці ёсць — дома табе не сядзіцца.

— Якая ты разумніца?! — зазлаваў ён. — Гэты «хтосьці» — я сам. Чаму ты не хочаш зразумець: калі ніхто не лезе ў душу, не мазоліць вочы ды не надакучае, я магу думаць, пісаць... У майстэрні я нібы ўзнімаюся на неба, — адчуваў, што крыўдзіў жонку, у якой *пасля бальніцы, напэўна,* сэрца і без таго разрывалася — яна ж збіралася стаць маці.

2.

Кватэру далі ў новым мікрараёне, а майстэрня — у цэнтры горада. Можна было пачакаць трохі і кватэру атрымаць бліжэй да майстэрні. Але хіба чакалася? Свой куток сніўся, і Ігар марыў аб адным: каб хутчэй. Калі прапанавалі, то доўга не думаў. Ды што асаблівага і выгадаў бы, каб жыў бліжэй да цэнтра? Магазіны, тэатры, саюз... Усё пад бокам? Але куды падзецца ад шуму?..

Ехаў у паўпустым тралейбусе, і пазіраў у той бок, дзе віднелася кальцавая дарога. За дарогай лясок, а за ляском — вадасховішча, якое называюць морам. Каля яго Ігар пазнаёміўся з Нінай.

Яна была не адна — з сяброўкай. Сяброўка, высакаватая бландзінка, адчувала сябе нібы рыба ў вадзе, ну, а Ніна, як прас — яе, здавалася, так і цягнула на дно.

За імі назіраў Ігар.. Яму надакучыла смаліцца на сонцы, і ён падышоў да дзяўчат. Разгаварыліся, Ігар дазнаўся, што бландзінку завуць Данай, яна вырасла на Балтыцы, яны разам заканчваюць інстытут замежных моў.

Ігар і Дана паплылі ў бок буйкоў, а Ніна плёскалася ля берага. Дана зразумела, што Ігар не такі ўжо майстра-плывец, але на вадзе трымацца ўмее і то дзякуй богу...

Праз дзень-другі Ігар ведаў, што ў Даны быў жаніх, у іх ужо наклёўвалася вяселле, але ў самы апошні момант жаніх перадумаў і знік з вачэй. А Ніна *яшчэ ўсё шукала свайго* суджанага.

Дана ўявіла, што гэта яна ўскружыла Ігару галаву, увесь час неразумна хіхікала, заглядвала яму ў вочы, кожны дзень апранала новыя ўборы, раз ці два ўтраіх яны наведалі рэстаран на беразе мора, і частавала іх Дана: яна адна ў бацькоў, а бацька яе капітан гандлёвага судна, грошай для дачкі не шкадаваў, колькі тая *прасіла,* столькі і высылаў.

Ніна хоць і не ўмела, як Дана, плаваць, але была лёгкай, *гнуткай, усё ў яе ў меру, складна-ладна.* Ігар дзівіўся, што Ніна нібы прыроджаная гімнастка, а не можа пераадолець у *сабе страх, каб прывыкнуць да* вады. Цяпер мала ў каго з дзяўчат можна ўбачыць заплеценыя ў доўгую касу валасы. А ў Ніны каса нібы з жытняй саломкі — успыхвае, як золата, на сонцы. Вочы ў яе вялікія, лоб высокі, а калі смяялася, то прыгожа свяціўся белазубы рот.

Пабраўшыся за рукі, ступалі з берага ў ваду, і ў Ігара ад шчасця замірала сэрца. Яму ўсё падабалася ў ёй: і тое, як трымалася за яго руку, і як баялася заходзіць глыбака ў ваду...

І назаўтра, і затым яшчэ зноў яны ехалі на мора. Дана, пэўна, аб усім здагадвалася, яе трывожыла, што сяброўка нібы пазбягала яе. Калі Ігар браў Ніну за руку, і яны ступалі ў ваду, Дана, гледзячы на іх, казала:

— Як маленькія. Кругом людзі, а ім хоць бы што.

Пасля гэтых яе слоў Ігар зразумеў, што Дана ім незадаволена. Затое ён адчуваў Ніліну прыхільнасць, і гэта прымушала быць сур'ёзным.

— Мне хочацца, Дана, твой партрэт напісаць,— сказаў Ігар, пільна ўзіраўся ў дзяўчыну і думаў, што яе добра было б пісаць залаціста-зялёнымі танамі на фоне мора.

Дана пазірала на яго і, пэўна, злавіла сябе на тым, што Ігар — далёкі і незразумелы чалавек. Вось спытаць бы ў Ніны, тая, напэўна, ведала...

3.

Яшчэ з парога чуваць, як пахне алейнымі фарбамі. Але Ігар прывык да гэтага, бо з дня ў дзень не вылазіць з майстэрні, а іншы раз нават і начуе тут. Не сказаць, каб майстэрня ў яго дужа раскошная, але і не цесная — на два асобныя пакоі. У меншым канапа, стол, а на самаробных драўляных стэлажах — рамы, падрамнікі, закончаныя ці толькі пачатыя карціны, але па прычыне, вядомай толькі яму, Ігару Самуціку, не даведзеныя да канца, ці, як гаворыць ён сам, незавершаныя. Святла тут малавата, бо толькі адно акно, ды і тое нізка. Ігар ахрысціў гэты прыцемны куточак «пакоем адпачынку».

У большай зале ёсць таксама стол — нізкі, прадаўгаваты. На ім у беспарадку ляжаць цюбікі з фарбай, мастыхін, альбомы з рэпрадукцыямі, старыя газеты, анучы, аб якія выцірае пэндзаль. У зале два вялікія акны, але святла ўсё адно не хапае, бо вокны невысока ад зямлі. Праз гэта і давялося пад столлю павесіць доўгія неонавыя лямпы. Але хіба яны заменяць сонца?

Пасярэдзіне залы, бы старыя кросны, якія ставіла маці кожнай зімой на покуце хаты,— мальберт. Ён вузкі і высокі, да самай столі, і застаецца толькі дзівіцца, дзе Ігар выпаваў гэтую гаргару.

Пераступіўшы ўпершыню парог майстэрні, Ігар не мог нарадавацца — святліца, а не рабочы кабінет. Аж два пакоі! Ён выняў з кішэні сціло, і ў *прыцемным куточку прыкінуў,* дзе саб'е стэлажы, на сцяне вывеў: «Майстэрня Ігара Самуціка». Ніякая гэта яшчэ не была майстэрня, але раз ёсць дзе працаваць, то не лянуйся, пішы, што душы заўгодна: пейзажы, нацюрморты, партрэты. Адну яго карціну, напісаную ў студэнцкую пару, закупілі ў Маскву, што было расцэнена самім Ігарам як прызнанне яго та-

ПОШУКІ ЗНАХОДКІ

# Марыя Ячыноўская-Кімонт

Неяк Галіна Максімаўна Гарэцкая, дачка аўтара «Віленскіх камунараў», параіла звярнуць увагу на апублікаваны ў газеце «Беларускі звон» (8 верасня 1922 г.) некралог. Вось ягоны пачатак:

«Гэткі невялікі ў нас гурток працаўнікоў над развіццём беларускага мастацтва, а і тут лютая смерць вырывае лепшыя адзінкі.

Мы стаім перад свежаю магілай выдатнае музыкантшы, добра вядомай у артыстычных кругах Вільні—дый не адной толькі Вільні — піяністкі Марыі з Ячыноўскіх Кімонтавай.

Усё жыццё сваё яна пераважна правяла за межамі нашага краю. Вучылася ў Пецярбургскай кансерваторыі ў вялікага Рубінштэйна. Пасля, выйшаўшы замуж за літоўскага грамадскага дзеяча, Янку Кімонта, жыла ў Пскове, Казані і другіх местах Расеі...»

Зацікавіў некралог асобай. У 1915 г. Марыя Ячыноўская-Кімонт і Алесь Бурбіс намаганнямі Беларускага тэатральна-музычнага гуртка паставілі ў Вільні п'есу В. Дуніна-Марцінкевіча «Залёты». На неардынарную падзею ў культурным жыцці беларусаў адгукнуўся рэцэнзіяй у «Нашай Ніве» рэдактар Янка Купала. Грунтоўна віленскую пастаноўку «Залётаў» разглядаў у артыкуле «Да гісторыі пастаноўкі «Залётаў» Дуніна-Марцінкевіча» З. Пазняк («Весці АН БССР. Серыя грамад. навук», 1973, № 6). Прозвішча паплечніцы Алеся Бурбіса занатавана ў айчынных энцыклапедычных даведніках. Але ў іх пазначана зусім іншая дата смерці—3 мая 1961 г. Імя—таксама іншае: Марцаліна. І прозвішча—не зусім тое: Кімант-Яцына. Звесткі ўзяты з афіцыйнай адносіны, дасланай 6.IX. 1971 г. Варшаўскім дзяржаўным музычным інстытутам (захоўваецца ў архіве БелСЭ). Узнікае пытанне: наколькі апраўдана такое атаясамліванне?

Азнаёміўшыся з афіцыйным лістом, бачу, што на працягу 38 гадоў жыццё Марцаліны Кімант-Яцыны звязана з Пецярбургам-Петраградам, дзе яна нарадзілася (1884 г.), скончыла кансерваторыю (1907 г.), працавала выкладчыцай яе, атрымала тытул прафесара (1915 г.) і толькі ў 1922 г. прыехала ў Вільню. Марыя ж Ячыноўская, як вядома, разам з фінам В. Ратасэпам арганізавала 31 студзеня 1914 г. канцэрт-баль чатырох народаў у Вільні, мела дачыненне да пастаноўкі «Залётаў» у віленскім тэатры «Фільгармонія» 25 студзеня 1915 г., кіравала хорам у Віленскім беларускім музычна-драматычным гуртку, рыхтавала музычныя аддзелы драмгуртка ў 1916—1918 гг. Згодна з энцыклапедычным артыкулам, вышэйпералічанае здзейсніла Марцаліна Кімант-Яцына.

Высвятленне сутнасці памылкі пачнём з некралога. Перачытваючы яго, заўважаю, што Марыя памерла непрыкметна. «Ад пачатку гэтага (1922 г.—Я. Я.) года яна ўсцяж была хворая, і мала хто з прыяцеляў бачыў яе. Дый памерла яна неяк ціха: бадай ніхто не ведаў аб яе смерці, бадай ніхто не пайшоў аддаць ёй апошні паклон на вечнае развітанне». Падумалася: раптам некралог—памылка, і надрукаванае развітальнае слова апярэдзіла падзеі ледзь не на 40 гадоў? Адкідваю дадзеную версію пасля знаёмства з невялічкай манаграфіяй «Беларускі тэатр» (Вільня, 1924), дзе на стар. 101 Марыя Кімонт названа нябожчыцай.

Хто ж тады Марцаліна Кімант-Яцына? Ці пісала яна, як сцвярджаюць энцыклапедычныя даведнікі, музыку да фарса-вадэвіля «Залёты» Дуніна-Марцінкевіча? На шчасце, артыкул у БелСЭ дазваляў сустрэцца з вучаніцай Марцаліны, кампазітаркай Эдзі Тырманд. Чаму не выкарыстаць, дзеля высвятлення ісціны, гэтую магчымасць? У Саюзе кампазітараў БССР даведваюся тэлефон Тырманд і дамаўляюся з ёй пра сустрэчу.

Эдзі Майсееўна запэўніла, што імя яе настаўніцы не Марыя, а Марцаліна. А самае галоўнае—дазнаюся пад час сустрэчы—дзявочае прозвішча Марцаліны не Ячыноўская, а Кімонт («Кімонтувна»). Муж яе, Яцына, працаваў на чыгунцы.

Істотныя штрыхі на шляху да разгадкі! Марыя паходзіла з сям'і уніяцкага святара Ячыноўскага, мела мужа Янку Кімонта, пра што пісалася ў рэцэнзіях на тэатральную пастаноўку «Залётаў» і ў выяўленым некралогу.

Шаноўны прафесар Фёдар Янкоўскі, які зацікавіўся росшукамі, прапаноўвае напісаць лісты беларускім старэйшынам — у Вільнюс, Радашковічы, Эйшышкес. Можа, хто з іх памятае віленскую эпоху пачатку 1920-х гг.? Адказы прыйшлі адмоўныя. Праўда, Зоська Верас раіць звярнуцца ў Варшаву, да Юркі Туронка («паважны даследчык, шчыры беларус... мне асабіста шмат у чым дапамог, адказваючы на мае пытанні аб розныя падзеі»).

У лісце да Туронка папрасіў: удакладніць, дзе жыла Марцаліна Кімант-Яцына ў 1914—1922 гг.; высветліць яе прозвішча па мужу; пагартаць варшаўскія газеты за май 1961 г. Думалася, на смерць прафесара сталічнай кансерваторыі напэўна ж з'явіліся некралогі. Мо яны пральюць святло на заблытаны жыццяпіс беларускай кампазітаркі. Падобна на тое, што нашы энцыклапедысты злучылі ў адно біяграфіі двух людзей. А раптам Марыя Ячыноўская-Кімонт і Марцаліна Кімант-Яцына—сваякі? Вельмі ўжо сышлося ўсё разам—смерць Марыі і пераезд у тым жа годзе Марцаліны з Петраграда ў Вільню. Так бы мовіць, фамільнае гняздоўе музыкантаў. Я правяраў гэтую магчымасць, і ў першым томе «Slownika muzykòw polskich» (Варшава, 1964, с. 195), а таксама ў «Польскім слоўніку біяграфічным» натрапіў на імя піяністкі з Шаўляя Кацярыны Ячыноўскай (1873—1920). Падказваю Туронку і кнігу «150 lat Państwowej Wyzszej szkoly muzycznej» (Варшава, 1960), дзе згадваецца пра Марцаліну Кімант-Яцыну.

Разгадка стала вядомай хутка. У лісце (4 снежня 1985 г.) Юрка Туронак адказаў: «...Пошукі ў літаратуры аказаліся беспаспяховымі. Тады прыйшла думка, каб знайсці асабовую папку Марцаліны. Яна знайшлася ў архіве Музычнай Акадэміі ў Варшаве (колішняя кансерваторыя).

Марцаліна піша і ў сваёй аўтабіяграфіі, і ў асабовай анкеце, што яе бацька, Ян Кімонт, чыноўнік, памёр у 1924 г., а МАЦІ МАРЫЯ з ЯЧЫНОЎСКІХ (курсіў Туронка.—Я. Я.) — настаўніца музыкі, памерла ў 1922 г.».

Паведамлялася, што муж Марцаліны Вацлаў Яцына, працаваў інжынерам «міністэрства чыгунак у міжваенны перыяд». Бацька Марцаліны, Ян Кімонт, сапраўды звязаны з літоўскім грамадскім рухам; звесткі пра яго змяшчае «Lietuviu Enciklopedija». Пацвердзілася меркаванне адносна сваяцтва Кацярыны Ячыноўскай. Яна — родная сястра Марыі, у сувязі з чым трэба зрабіць удакладненне. Бацька Ячыноўскай, меркавалася, — «беларускі уніяцкі святар». Таму ў канцы ліста Туронак лічыць вартым дапоўніць: «І яшчэ, што можа зацікавіць гісторыка музыкі. Маці сясцёр Ячыноўскіх называлася Стравінская! Адсюль музычныя схільнасці ў дачок».

Праведзеныя росшукі ўдакладняюць жыццяпіс кампазітаркі Марыі Ячыноўскай-Кімонт, дазваляюць пазбавіцца ад неаднойчы паўторанай у навуковых даследаваннях «энцыклапедычнай памылкі», якая мелася перавандраваць і ў трэці том «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі».

Язэп ЯНУШКЕВІЧ.

# Слядамі Андрэя Рымшы

Хоць і тонкім, але безупынным ступеньчыкам вывіваецца з зямлі на схіле пагорка крынічка. А за пагоркам—Пянчын, радзіма паэта Андрэя Рымшы. Спрадвеку бруіцца крынічка, але не скончыліся запасы вады яе. Не згубілася ў вяках і імя паэта, які жыў чатыры стагоддзі назад.

Каб трапіць у Пянчын, не трэба ехаць пад Навагрудак, як указвае Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, а ў Карчоўскі сельскі савет Баранавіцкага раёна.

Ад Гарадзішча дарога ідзе на ўсход. Вузкай стужкай звіваецца сярод лесу. Узбягае то на адзін, то на другі пагорак. Позірк скіроўваецца на возера, па якім плаваюць чародкі свойскіх качак і гусей, а па берагах сцішана сядзяць рыбакі.

Накіроўваючыся ў вёску, хацелася адчуць дыханне часу, у які жыў паэт. Але даўніны тут няма. Нічога не захавалася з часоў Андрэя Рымшы. Толькі, магчыма, памятаюць паэта таўшчэзныя ліпы і таполі, што ганарліва стаяць на аселіцы. Прыемна было даведацца, што засталося ад Андрэя Рымшы тут, на радзіме, яго прозвішча: хоць не часта, але сустракаецца яно ў навакольных вёсках.

Карчоўшчына —паэтычны куток. Бываў тут у свой час і Адам Міцкевіч (ад Пянчына да Туганавіч рукой падаць). Жыла тут, у Горным Скробаве, у 1912—1913 гадах, і Канстанцыя Буйло. Пабываўшы заадно ў Туганавічах і Скробаве, захацелася пайсці далей слядамі Андрэя Рымшы, даведацца аб ім больш (літаратурныя крыніцы пра паэта вельмі скупыя).

Дакладных звестак аб годзе нараджэння Андрэя Рымшы няма. Нарадзіўся ён каля 1550 года. Быў заснавальнікам панегірычнай паэзіі ў старажытнай беларускай літаратуры. Вядомы яго панегірыкі на гербы магнатаў А. Валовіча (1585 г.), Л. Сапегі (1588 г.) і Ф. Скуміна (1591 г.).

Адукацыю Андрэй Рымша атрымаў у мясцовых школах. Сведчаннем гэтага можа быць яго двухрадкоўе:

Наглядзеўся таго я,
як ездзіў хто ў Рым,
Як паехаў дурным,
не вярнуўся другім.

Паводле некаторых звестак ён вучыўся ў Астрожскай (цяпер Ровенская вобласць) славяна-грэка-лацінскай школе для вывучэння так званых вольных навук: граматыкі, рыторыкі, арыфметыкі, музыкі, астраноміі, дыялектыкі. Гэтую школу часта называюць Астрожскай акадэміяй. Будынак яе не захаваўся да нашых дзён. Мяркуюць, што ў гэтым будынку была Астрожская друкарня. Цяпер на тым месцы ўстаноўлена памятная стэла ў выглядзе разгорнутай кнігі, якая завяршаецца пазалочаным шарам, што сімвалізуе сонца. На стэле сярод імёнаў асветнікаў таго часу мы чытаем і імя Андрэя Рымшы.

Як бачым, у Астрозе імя нашага земляка не забыта. Тут, у гісторыка-культурным запаведніку, ёсць матэрыялы аб ім. А ва Украінскай Савецкай Энцыклапедыі яго называюць украінскім і беларускім паэтам.

Каб мець магчымасць займацца творчай працай, Андрэй Рымша вымушаны быў у 1572 годзе паступіць на службу да князёў Радзівілаў. Разам з Крыштофам Радзівілам удзельнічае ў ваенных паходах. У 1581 годзе суправаджаў яго ў паходзе пад Пскоў.

У гэтым жа 1581 годзе Андрэй Рымша выдае ў Астрозе на беларускай мове вершаваную «Храналогію». Надрукаваў яе рускі першадрукар Іван Фёдараў, які ў гэты час тут працаваў. «Храналогія»—першы друкаваны каляндар-лістоўка. У ім даюцца назвы месяцаў на лацінскай, яўрэйскай і беларускай мовах.

З 1582 года Андрэй Рымша жыве ў мястэчку Дзевянішкі на Ашмяншчыне (цяпер Дзевянішкес Літоўскай ССР). Тут ён напісаў у 1583 годзе на польскай мове паэму «Дэкэтэрос Акрома, або Дзесяцігадовая аповесць ваенных спраў... Крыштофа Радзівіла...» (2184 радкі). Надрукавана яна была ў 1585 годзе ў віленскай друкарні Даніэля Ланчыцкага. Адзіны экземпляр гэтага выдання знаходзіцца ў Гданьску ў бібліятэцы Польскай Акадэміі навук. У паэме паэт апісвае жорсткасць не толькі працаўніка, але і мясцовых феадалаў.

Перад паэмай пададзена эпіграма паэта Яна Радвана на Андрэя Рымшу. У ёй ёсць выраз: «Зямлі цудоўна служыў кніжак сваіх выданнем». Відаць, акрамя «Храналогіі», к гэтаму часу ў Рымшы былі і іншыя кнігі, але да нас яны не дайшлі.

І цяпер імя Андрэя Рымшы вядома ў Дзевянішках. У мясцовай школе вядзецца збор матэрыялаў аб ім. У выдадзенай у 1968 годзе на літоўскай мове кнізе «Дзевянішкес» яго называюць адным з выдатных літоўскіх паэтаў.

Пасля Дзевянішак спатыкаем Андрэя Рымшу ў Біржах (цяпер Біржай Літоўскай ССР). У дадатку да кнігі В. Раудзялюнаса і К. Кірковічуса «Судзейскія кнігі Біржайскага маёнтка (1620—1745 гг.)», выдадзенай у Вільнюсе, сказана, што Рымша ў 1589—1599 гадах быў біржайскім гарадскім кіраўніком (войтам). Значыць, год яго смерці адсоўваецца (БелСЭ ўказвае: «пасля 1595 года»). На біржайскім перыядзе звесткі аб Рымшы абрываюцца.

Андрэй Рымша вядомы і як перакладчык. У 16 стагоддзі чыталі на Беларусі творы рымскага імператара Ціта Флавія ў яго перакладзе.

Вось што нам удалося ўбачыць, пачуць ці даведацца аб сваім земляку. Хацелася б бачыць у Пянчыне памятны знак-сведчанне нараджэння тут Андрэя Рымшы.

Аляксандр ШОЦКІ,
настаўнік.




з 30 чэрвеня па 6 ліпеня 1986 года

30 чэрвеня, 14.30
**КІНАМАЗАІКА**
У чарговым выпуску тэлепраграмы —рэпартаж з VI з'езда кінематаграфістаў БССР. Пад рубрыкай «Нашы юбіляры» вы сустрэнецеся з кінааператарамі студыі «Беларусьфільм» Р. Масальскім і А. Аўдзеевым. Адбудзецца знаёмства з малдаўскім кінарэжысёрам В. Жарэгі. «Старонка гісторыі» нагадае пра творчасць выдатнага беларускага кінааператара А. Булінскага. Кінаакцёр і каскадзёр Г. Чацверыкоў адкажа на пісьмы тэлегледачоў. У заключэнне чарговы тур кінавіктарыны.

30 чэрвеня, 20.10
**II УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ**
Выступаюць удзельнікі мастацкай самадзейнасці віцебскага вытворчага аб'яднання «Даламіт».

1 ліпеня, 19.50
**КАНЦЭРТ СІМФАНІЧНАЙ МУЗЫКІ**
У праграме творы Я. Глебава і Г. Вагнера. Выканаўцы: Дзяржаўны сімфанічны аркестр Эстонскай ССР, аб'яднаны хор Беларускага тэлебачання і радыё. Мастацкі кіраўнік — народны артыст БССР, прафесар В. Роўда. Салістка — заслужаная артыстка Украінскай ССР В. Пархоменка. Дырыжор —народны артыст РСФСР Г. Праватараў.

2 ліпеня, 18.10
**РОЗДУМ**
Карціна Л. Шчамялёва «Суровыя гады». Вядучы — мастацтвазнаўца У. Бойка.

2 ліпеня, 19.50
**ПЕСНІ ПАРТЫЗАНСКАЙ ЗЯМЛЯНКІ**
Будзе прадоўжана размова пра партызанскую песню. Вы даведаецеся аб партызанскіх агіткалектывах, у якіх часцей за ўсё пачынаўся баявы шлях песні.

3 ліпеня, 16.40
**ПАМЯЦЬ СЭРЦА**
Расказвае былы франтавік, пісьменнік Аркадзь Марціновіч. Вядзе перадачу А. Емяльянаў.

3 ліпеня, 17.40
**МЫ ЗНОЎ ВЯРТАЕМСЯ У ТОЙ ЧАС...**
Прагучаць вершы маладых беларускіх паэтаў аб Вялікай Айчыннай вайне.

3 ліпеня, 19.10
**І. ЛУЧАНОК. ВАКАЛЬНЫ ЦЫКЛ «ВАЙНА НЕ ПАТРЭБНА»**
У вакальным цыкле выкарыстаны вершы савецкіх паэтаў-франтавікоў В. Шэфнера, Р. Пажэняна і югаслаўскага паэта-антыфашыста Ю. Каштэляна.
Выканаўца — саліст Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР М. Жылюк. Партыю фартэпіяна выконвае заслужаная артыстка БССР Л. Максімава.

3 ліпеня, 19.50
**ВІНШУЕМ ВАС!**
Музычная праграма, прысвечаная Дню вызвалення Савецкай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

4 ліпеня, 19.50
**«БУГ». ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС**
У чарговым выпуску тэлечасопіса вы пазнаёміцеся з новай кнігай паэзіі М. Пракаповіча «На крузі свае» і творчасцю брэсцкага мастака М. Маеўскага.

5 ліпеня, 13.05
**І. ГРЭКАВА, П. ЛУНГІН. «УДОВІН ПАРАХОД»**
Спектакль Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра Літоўскай ССР.

5 ліпеня, 15.30
**МАСТАК І ЧАС**
Тэма вайны ў творчасці У. Пасюкевіча. Вядзе перадачу мастацтвазнаўца В. Буйвал.

5 ліпеня, 17.00
**ДРУЖБА НАРОДАЎ— ДРУЖБА ЛІТАРАТУР**
Сустрэча пісьменнікаў Беларусі і Эстоніі.

5 ліпеня, 22.55
**СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ**
Музычная праграма з удзелам артыстаў эстонскай эстрады Т. Мягі, М. Лянік, ансамбляў «Мюзік-сейф» і «Махавок». Вядучы — журналіст Д. Падбярэзскі.

6 ліпеня, 18.30
**ПЯСНЯР І СЕННЯ У ПОСТУПЕ ЖЫЦЦЯ**
Рэпартаж з Літаратурнага музея Якуба Коласа.

6 ліпеня, 19.50
**УСПАМІН ПРА РАХМАНІНАВА**
Вядучая — музыказнавед Людміла Барадзіна.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 05786 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-19-85, аддзела публіцыстыкі—33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела тэатра і выяўленчага мастацтва — 33-21-53, аддзела музыкі і кіно—33-21-53, аддзела культуры—33-24-62, аддзела інфармацыі—33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і машынапіснага бюро — 33-44-04, фоталабараторыі — 33-24-62, выдавецтва—23-52-85, бухгалтэрыі — 23-77-65, карэктарскай — 32-20-64.

Рэдакцыя прымае і разглядае апавяданні, нарысы, артыкулы — да 12 старонак, рэцэнзіі, інтэрв'ю, карэспандэнцыі, нататкі — да 6 старонак, вершаваныя творы — не больш як 150 радкоў. Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы ў двух экземплярах.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.